№ 42 (879) 12 лістапада 2014 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## Затое Крым ваш

**Расійскі рубель падае і падае — мінус 43% з пачатку года.**

Старонка 5

REUTERS



## Новая прэс-сакратарка Лукашэнкі

Наталля Эйсмант працавала вядучай на БТ. Старонка 2.

## «У БАТЭ ўсё робіцца правільна, па-еўрапейску»



Барысаўскі клуб дзявяты раз запар стаў чэмпіёнам Беларусі. Старонка 11.

АЛЯКСАНДР КАКШЫНСКІ, FCBATE.BY



### Здаў «Додж» пакатацца непаўналетняму. За бутэльку

У аварыі загінулі дзве найлепшыя сяброўкі. Старонка 7.



### «Я выратую вас ад сатаны»

Мінчук парэзаў жонку і дзяцей, а потым на машыне забіў мужчыну і жанчыну. Старонка 9.

# Пяць фактаў пра прэс-сакратарку Лукашэнкі Наталлю Эйсмант

З гэтай пасады сваё **кар'ернае ўзвышэнне** некалі пачала Наталля Пяткевіч.



## 1. Вядучая «Панарамы»

Усім больш вядомы творчы псеўданім Наталлі — Кірсанава. Менавіта пад такім іменем яна вяла праграмы «Панарама» і «Галоўны эфір» на тэлеканале «Беларусь-1». Дзявочае прозвішча — Сялюн.

Наталля Эйсмант нарадзілася ў Мінску, скончыла Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў, па спецыяльнасці «акцёрка драматычнага тэатра і кіно». Працавала ў Тэатры музкамедыі. «У тэатр хаджу не па працы, а для душы. Перавагу аддаю Купалаўскаму», — казала Наталля.

Варта адзначыць, што пасада менавіта прэс-сакратара Лукашэнкі пуставала ад часоў Наталлі Пяткевіч. Усе наступныя прызначэнцы былі «кіраўнікамі прэс-службы», але не прэс-сакратарамі.

## 2. Вольна валодае беларускай мовай

Наталля Кірсанава таксама вяла беларускамоўную перадачу «Навіны рэгіёна». У інтэрв'ю тэлеканалу яна казала, што пераход на беларускую мову не быў лёгкім. Яна персанальна займалася з вядомым мовазнаўцам Уладзімірам Куліковічам. «Калі пішу тэксты, то думаю выключна па-беларуску», — прызнавалася журналістка.

## 3. Муж таксама на БТ

Другой палавінкай Наталлі Кірсанавай з'яўляецца яшчэ адзін вядучы тэлеканала «Беларусь» — Іван Эйсмант. Творчы псеўданім — Іван Міхайлаў. Ён з'яўляецца вядучым перадач «Галоўны эфір» (часам яны з'яўляліся ў эфіры разам з жонкай) і «Спорт-кадр». Яму 37 гадоў. Скончыў Акадэмію МУС. Адукацыя дазволіла яму пэўны час папрацаваць у перадачы «Зона Х». Кажа, што працаваў пазаштатным карэспандэнтам газеты «Прессбол», калі жыў некалькі гадоў у Гродне. Эйсманты — гэта старажытны шляхецкі род, які паходзіць з Лідчыны.

Варта адзначыць, што на БТ таксама працуе сястра Івана — Ганна Эйсмант, вядучая спартыўных навін.

## 4. Актыўная ў сацыяльных сетках

Наталля Кірсанава мае акаўнт у Фэйсбуку, куды выкладае ў асноўным уласныя фотаздымкі. Змяшчала спасылку на артыкул «Пост абажання Одры Хёпберн». Сярод упадабанняў — газеты «Антэна» і «Камсамольская правда в Беларусі», XXL Belarus, «Худней смачна», Вікторыі Бэкхэм, «Сакрэты поспеху вялікіх». Таксама яна мае акаўнт у «Аднакласніках».

## 5. Куміры — Джобс, Тэтчэр, Чэрчыль

Калі ў Наталлі Кірсанавай запыталіся, хто для яе самыя ўплывовыя людзі ў гісторыі, то адказ быў такі: «Мне на розум адразу прыходзіць — Уінстан Чэрчыль, мне вельмі цікавы гэты чалавек з ягонымі афарызмамі». Сярод сучаснікаў яна назвала стваральніка *Apple* Стыва Джобса. А сярод славутых жанчын асаблівае месца вызначыла Анджаліне Джалі і Маргарэт Тэтчэр.

На пытанне, чаго ёй не хапала падчас працы на БТ, адказала: «Бірулькі ад галоўнай паркоўкі». Мабыць, на новым месцы працы праблем з паркоўкай у Наталлі не будзе.

**Зміцер Панкавец**

# Новы галоўны мытнік краіны. Хто такі Юрый Сянько?

Афіцыйная біяграфія гэтага чалавека не стракацца фактамі. Яму 47 гадоў. Але нават не пазначаецца месца нараджэння Сянько. Паводле інфармацыі «НН», ён паходзіць з вёскі Варонча Карэліцкага раёна. Пра гэтую вёску ў «Зямлі пад белымі крыламі» згадваў Уладзімір Караткевіч, называючы яе музеем пад адкрытым небам.

Вядома, што Юрый Сянько скончыў Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы, факультэт правазнаўства. Пасля чаго і застаўся на працы ў Гродне.

Займаў розныя пасады ў Гродзенскай рэгіянальнай мытні. У 35 гадоў узначаліў. У 2011 Сянько перавялі кіраўніком Мінскай рэгіянальнай мытні. Праца ў Мінску больш адказная, істотна большы аб'ём працы.

«Хутка, якасна, з усмешкай на твары», — такія рэкамендацыі сваім калегам даваў Юрый Сянько.

Гродзенскі журналіст Андрэй Пачобут некалькі разоў сутыкаўся з Юрыем Сянько, калі апошні яшчэ працаваў у Гродне. «Гэта быў троху вальнейшы час, таму ён мог размаўляць з незалежнымі журналістамі, тады многія маглі сабе гэта дазволіць. За час ягонай працы многія супрацоўнікі Гродзенскай мытні апынуліся ў турме.




Але Мытны камітэт — гэта такая дзіўная структура, дзе правіны падначаленых ніяк не адбіваюцца на начальстве. Калі ў міліцыі, скажам, саджаюць супрацоўніка, то гэта вылазіць бокам і кіраўніцтву МУС, а вось у Мытным камітэце не так».

Пачобут адзначае, што Мытны камітэт — гэта ўсё ж не рэпрэсіўны орган, а структура, якая робіць усё, каб зарабіць больш грошай дзяржаве. Тым не менш, з перыядам працы Сянько звязаная адна не самая прыгожая гісторыя, калі ў 2006 годзе гродзенскія мытнікі нібыта знайшлі наркотыкі ў аўтамабілі тагачаснай кіраўнічкі Саюза палякаў Анжалікі Борыс.

«Я не думаю, што гэта рабілася па загадзе Сянько, — працягвае Пачобут. — Адзінае, што ўзгадваю, дык гэта блытаніну ў ягоных словах, якія наркотыкі былі знойдзеныя, і афіцыйных паведамленнях на гэты конт». Дарэчы, тая справа ніякага працягу не мела. І проста была закрытая.

Што тычыцца былога кіраўніка, 61-гадовага Аляксандра Шпілеўскага, то гэты доўгажыхар ўладнага алімпа — 13 гадоў ён узначальваў Мытны камітэт. Шпілеўскі выхадзец з КДБ.

**ЗП**




Шпілеўскі быў на пасадзе ажно 13 гадоў.

### Самае чытанае на nn.by за 5 — 11 лістапада

1. Як вам тое, што зрабілі з вежай Навагрудскага замка?
2. Пяць фактаў пра новую прэс-сакратарку Лукашэнкі Наталлю Эйсмант
3. Здаў за бутэльку алкаголю «Додж» аб'ёмам 5,7 пакатацца непаўналетняму
4. Паніка на расійскім рынку: даляр ужо 48, еўра 60
5. Расійскія спецслужбы забілі баевіка «ДНР» Ігара Безлера «Беса»?
6. «Народную Місіс Пецярбург» патрабуюць акунуць галавой ва ўнітаз
7. Новае вар'яцтва ў Мінску: мужчына парэзаў сваю сям'ю, а затым на Audi протараніў 5 аўто
8. Крывавая сеча ў Данецкім аэрапорце, загінуў наймалодшы з «кібаргаў»
9. Расія святкуе дзень вызвалення Масквы ад польска-беларускіх войскаў
10. Стралкоў: Баявік «Абвер» не вытрымаў, калі маці пракляла яго ў жывым эфіры

Новы **гендырэктар «Беларуськалія»** паднімаецца па кар'ернай лесвіцы.

# Галаваты замест Кірыенкі

Новым кіраўніком «Беларуськалія» стаў Іван Галаваты. Ён узняты з пасады галоўнага інжынера прадпрыемства.

«Хоць сітуацыя на «Беларуськаліі» больш-менш нармальная, але выяўленыя істотныя недахопы — закаранелыя, хранічныя недахопы, звязаныя з велізарным марнаваннем грошай — валюты на закупку тэхналагічнага абсталявання, якія мы выкарыстоўваем на «Беларуськаліі», — заявіў Аляксандр Лукашэнка, прызначаючы Галаватага.

Ягоны папярэднік, Валерый Кірыенка, пратрымаўся на пасадзе кіраўніка «Беларуськалія» больш за пяць гадоў. Раней ён таксама быў галоўным інжынерам. Пры Кірыенку здарыўся крызіс, выкліканы канфліктам з «Уралкаліем», але апошнім часам сітуацыя з заробкамі палепшала.



Напрыклад, у жніўні налічаны заробак у Салігорскім раёне ўпершыню ў гісторыі Беларусі перавысіў 10 мільёнаў рублёў (каля $965). Што праўда, у верасні ён скаціўся да $790.

«Беларуськалій» — горадаўтваральнае прадпрыемства. У ягоным штаце больш за 18 тысяч работнікаў, а ўсяго ў Салігорску жыве каля 100 тысяч чалавек.

Пра Галаватага пакуль вядома нямнога. Ягоны род паходзіць з вёскі Зажэвічы. У сям'і з пакалення ў пакаленне перадаецца традыцыя называць сыноў Іванамі. Таму новы генеральны дырэктар — Іван Іванавіч.

Галаватаму каля 40 гадоў. Ён вучыўся ў Санкт-Пецярбургу. У 2010 стаў начальнікам упраўлення матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння, адкуль перайшоў на пасаду галоўнага інжынера.

Летась Галаваты прыходзіў на сход незалежнага прафсаюза **(глядзі фота)** у якасці выканаўцы абавязкаў гендырэктара «Беларуськалія». Яго тады абвінавацілі ў дыктатарскіх метадах працы і парушэнні калектыўнай дамовы.

**ЯМ**

# Фінансіст з трыццацігадовым стажам

Міністрам прызначаны **Уладзімір Амарын**.

Пасада міністра фінансаў заставалася свабоднай тры з палавай месяцы. Андрэй Харкавец быў адпраўлены ў адстаўку па стане здароўя, але свае абавязкі фактычна не выконваў яшчэ з канца 2013 года.

Рэальнае кіраванне было ў руках ягонага першага намесніка Уладзіміра Амарына. У выніку менавіта ён і стаў міністрам.

«Калі трэба нешта падкарэктаваць, падрэгуляваць (у бюджэце — **«НН»**), вы законы ведаеце, уносьце прапановы — мы будзем іх вырашаць. Але ні ў якім разе не рабіце па ўказцы прэм'ера, віцэ-прэм'ераў тое, чаго рабіць нельга, што дэстабілізуе адносіны ў кіраўнічай вертыкалі наогул», — даў наказ яму Аляксандр Лукашэнка.

53-гадовы Амарын — кіраўнік, тыповы для міністэрства фінансаў. Ягоны папярэднік Харкавец трапіў у ведамства на тры дзесяцігоддзі адразу пасля заканчэння наргаса.

Тое ж і з Амарыным. Паводле афіцыйнай біяграфіі, ён пачаў працу «ў фінансавай сістэме БССР на розных пасадах» у 1983-м, скончыўшы наргас. З цягам часу чыноўнік вырас да начальніка Галоўнага ўпраўлення бюджэтнай палітыкі, а пасля і намесніка міністра.

Амарын нарадзіўся ў Мінску. Як і іншыя фінансісты, ён сціплы чалавек, прынамсі пакуль не паспеў засвяціцца ў скандалах, звязаных з нерухомасцю. Трохпакаёўкай у Малінаўцы, у якой зарэгістраваны чыноўнік, валодае Ірына Амарына, атэставаны аўдытар і спецыяліст па падатках. А бацька міністра жыве ў маласямейцы.

У якасці сацыяльнай нагрузкі на Амарына павесілі федэрацыю настольнага тэніса. Чыноўнік узначальвае яе ўжо трэці год.

**ЯМ**




# З міністра ЖКГ — у мэры Мінска

Змяніўся **старшыня Мінгарвыканкама**.

Сярод адставак і прызначэнняў, якія адбыліся ў шэрагах беларускіх чыноўнікаў 6 лістапада, самым гучным стала звальненне Мікалая Ладуцькі. Прэтэнзіі да ягонай працы Аляксандр Лукашэнка выказваў неаднаразова, але чаму чыноўніка адхілілі менавіта цяпер, невядома. У прэзідэнцкім указе не называецца ніводная прычына: проста «вызваліць ад пасады».



### Ушчыльненне і пакорлівасць

Сталіцай Беларусі Ладуцька кіраваў пяць з паловай гадоў. Якімі ідэямі ён запомніўся жыхарам сталіцы?

Калі ягоны папярэднік Міхаіл Паўлаў зацята змагаўся з прыватнай забудовай, то Ладуцька падыходзіў да гэтага пытання не так прынцыпова. Некаторыя раёны, якія меркавалася зносіць, атрымалі права на жыццё.

Затое пры Ладуцьку распаўсюд набыло «ўшчыльненне». Пасярод двароў паўставалі шматпавярховікі МАПІДа, а пратэсты мясцовых жыхароў не прыносілі ніякага плёну.

Самастойнай палітыкі ён, вядома ж, не праводзіў. Самыя неадназначныя рашэнні — знос аўтавакзала «Маскоўскі», будаўніцтва гмаха «Ля Траецкага» і гатэля «Кемпінскі» — прымаліся ў Адміністрацыі прэзідэнта.

Калі ў 2011-м Аляксандр Лукашэнка разам з сынам Мікалаем пайшлі на ўзарваную станцыю «Кастрычніцкую», то служба аховы прэзідэнта Ладуцьку ў пераход... не пусціла. «Мэр» горада пакорліва стаяў сярод мінакоў, не ведаючы, што адбываецца.

Падавалася, што Лукашэнка не ставіцца да Ладуцькі сур'ёзна. Кіраўнік дзяржавы пастаянна рабіў публічныя вывалачкі старшыні Мінгарвыканкама, а мог яго і прынізіць. Узяўшы нешта ў новай адкрытай сталовай, Лукашэнка кіўнуў у бок Ладуцькі, маўляў, «ён заплаціць». Сам Ладуцька пры гэтым сарамліва ўсміхаўся і цягнуўся за кашальком.

Смяяліся з чыноўніка, і калі ён разам са старшынямі аблвыканкамаў стаў генерал-маёрам і ўзначаліў «раду абароны» Мінска. Ладуцька ў вайсковай форме выглядаў асабліва камічна.

### Клубны дом і непабудаваны катэдж

Затое належныя ўмовы для жыцця Ладуцька сабе арганізаваў. Ён жыве ў трохпакаёвых апартаментах агульнай плошчай каля 100 м² у закрытым квартале на вуліцы Чарвякова ў Мінску. Гэта незвычайнае месца — адзіны двор, у які выпадковы госць нават не можа зайсці падчас шпацыру. З усіх бакоў квартал абнесены высокім плотам, а месцы заезду аўтамабіляў на паркоўку замкнёныя на ключ.

Гэты дом узводзіла Упраўленне капітальнага будаўніцтва Мінгарвыканкама, кіраўніком якога ў сярэдзіне 2000-х якраз і быў сам чыноўнік.

Падчас раздачы зямлі ў Вяснінцы адным з першых, у канцы 2011-га, участак адхапіў Мікалай Ладуцька. Рашэннем старшыні Мінгарвыканкама (самога сябе) яму дасталася 14 сотак зямлі на першай берагавой лініі вадасховішча Дразды коштам да $1 мільёна.

Аднак будавацца Ладуцька так і не пачаў. Ягоную зямлю пакуль што толькі разраўнялі рабочыя суседа, кіраўніка Банка развіцця Сяргея Румаса.

На тое, каб пабудаваць дом, Ладуцьку давалася тры гады. Тэрмін скончыцца 1 сакавіка 2015 года. Былому мэру давядзецца звяртацца на новага мэра, каб папрасіць на будоўлю яшчэ некалькі гадоў. Іначай зямлю могуць канфіскаваць.

**Ягор Марціновіч**

**Мікалай Ладуцька**

Нарадзіўся ў 1959 у Мінску. Скончыў Беларускі політэхнічны інстытут (1981) і Акадэмію кіравання (2007).

У 1981—1982 — майстар будаўнічага ўпраўлення №256 МАПІДа. У 1982-1990 на камсамольскай працы — сакратар камітэта камсамола МАПІДа, першы сакратар Фрунзенскага райкама камсамола, намеснік загадчыка аддзела камсамольскіх арганізацый ЦК ЛКСМБ Мінска.

У 1990—2003 працаваў на розных пасадах у МАПІДзе, дайшоў да начальніка будаўнічага ўпраўлення—101.

У 2003—2006 — дырэктар Упраўлення капітальнага будаўніцтва Мінгарвыканкама, у 2006—2007 — кіраўнік адміністрацыі Фрунзенскага раёна Мінска.

У 2007—2009 — намеснік старшыні Мінгарвыканкама, у 2009—2010 — выканаўца абавязкаў старшыні Мінгарвыканкама, у 2010—2014 — старшыня Мінгарвыканкама.



**Андрэй Шорац**

Нарадзіўся ў 1973 у Віцебску. Скончыў Віцебскі дзяржаўны тэхналагічны ўніверсітэт (1995) і Акадэмію кіравання (1999).

У 1995—1997 працаваў на Віцебскім прыборабудаўнічым заводзе. У 1997—1998 — першы сакратар Кастрычніцкага райкама БПСМ Віцебска. У 1999—2002 працаваў у Віцебскім аблспажыўсаюзе.

Ад 2002 да 2010 у Віцебскім аблвыканкаме, у 2005—2010 — начальнік упраўлення ЖКГ.

У 2010—2011 — намеснік міністра ЖКГ, у 2011—2014 — міністр ЖКГ.

Ад 2014 — старшыня Мінгарвыканкама.

**Усе старшыні Мінгарвыканкама за часы незалежнасці**

Аляксандр Герасіменка (1991—1995)

Уладзімір Ярмошын (1995—2000)

Міхаіл Паўлаў (2000—2009) Памёр у 2010.

Мікалай Ладуцька (2010—2014)

Андрэй Шорац (ад 2014)

# Раптоўна памёр генерал Валерый Фралоў

Ён быў **вайсковым начальнікам і дэпутатам**, але сышоў у апазіцыю.

Валерыю Фралову было 67 гадоў. Яшчэ 9 лістапада яго бачылі сябры і паплечнікі, а назаўтра сын знайшоў яго нежывым дома. Слядоў гвалтоўнай смерці не было — інфаркт.

### Не заплямію сябе ў Вільні 1991 года

У 1991 годзе Валерый Фралоў быў прызначаны камандзірам дывізіі ў Прыбалтыйскай вайсковай акрузе, якая месцілася ў Вільні. Адбывалася гэта ўжо пасля славутых падзеяў ля Віленскай тэлевежы, дзе савецкія вайскоўцы адкрылі агонь, у выніку чаго было забіта 13 чалавек. Фралоў замяніў у Літве сумнавядомага генерала Уладзіміра Усхопчыка.

Дывізія Фралова абараняла будынак літоўскага ЦК падчас падзей путчу ГКЧП, вывозіла адтуль дакументы. «Я ўсё чакаў, што стральба пачнецца. Разумееў, якая сітуацыя. А калі літоўцы пачнуць стральбу, то кірдык. Мае ж таксама соплі жавець не будуць. Тады волі не было ў Міхаіла Сяргеевіча Гарбачова. Усё ж такі шэсць дывізій, дзве дэсантныя — там бы імгненна гэта патушылі. Калі б былі больш жорсткія. Але я бачыў, што народ ужо не хоча. Ці то я сам стыхійны дэмакрат, ці то хрэн ведае. Але крыві не хацелася», — прызнаваўся Валерый Фралоў у інтэрв'ю kyky.org. Вітаўтас Ландсбергіс пагражаў Фралову судом за той інцыдэнт каля ЦК, аднак крыві праліта не было.

У Літве Фралоў служыў з былым прэзідэнтам Чачні Асланам Масхадавым, апошні быў у падпарадкаванні Фралова.

### У парламенце перайшоў у апазіцыю

У палату прадстаўнікоў генерал Валерый Фралоў вылучаўся як кандыдат ад улады. Але ўжо ў парламенце ён разам з прадпрымальнікам Сяргеем Скрабцом і спартоўцам Уладзімірам Парфяновічам стварыў апазіцыйную групу дэпутатаў «Рэспубліка». Менавіта імі была праведзеная памятная галадоўка за змены ў выбарчае заканадаўства ў 2004 годзе.

Да парламента Валерый Дзмітрыевіч кіраваў 28-м армейскім корпусам, штаб якога месціўся ў Гродне, а вайсковыя часці ў Гродзенскай і Брэсцкай абласцях. Цікава, што ў гэты час пад кіраўніцтвам Валерыя Фралова служыў сённяшні дзяржсакратар Рады бяспекі Аляксандр Мяжуеў.

### Мітынг прыхільнікаў аб'яднання з Расіяй

У палітыцы ён запомніўся многімі непрадуманымі і супярэчлівымі крокамі. Напрыклад, у 2007 і 2008 гадах генерал Валерый Фралоў разам з Сяргеем Скрабцом праводзілі акцыі ў падтрымку яднання Беларусі і Расіі. На першае мерапрыемства прыйшло каля 10 чалавек, а на другое — каля 40. Папулярнасцю ў людзей такія мерапрыемствы не карысталіся.

Генерал Валер Фралоў тады трымаў расійскі сцяг, сшыты ў адно з дзяржаўным беларускім. Ён доўгі час шукаў падтрымкі ў Маскве, але так і не знайшоў. У апошнія гады жыцця ён увайшоў у кіраўніцтва Сацыял-дэмакратычнай партыі, быў намеснікам старшыні.


PHOTO.BYMEDIA.NET

### Генерал Фралоў і космас

У 2009 годзе Валерыя Фралова абсалютна нечакана прызначылі дарадцам генеральнага канструктара шматфункцыянальнай касмічнай сістэмы саюзнай дзяржавы. Здавалася б, дзе генерал, а дзе космас. Праўда, затрымаўся на гэтай пасадзе ён зусім нядоўга.

Фралоў запомніўся фразай, што з космасу нават за жонкай сачыць можна.

У Валерыя Фралова было іх дзве. Першая памерла яшчэ ў 2003 годзе. Потым была другая жонка Наталля Шынкевіч, але развяліся. «Стаміўся я ад выхаванчага працэсу, які яна праводзіла», — казаў генерал. Апошнія гады ён жыў разам з сынам. «Жывём я, сын і сабака — тры мужыкі». Быў вялікім аматарам лазні, у яго было шмат сяброў. Вучыўся ў беларускай школе, таму няблага размаўляў па-беларуску.

### Вылучаўся ў прэзідэнты

Вельмі доўгі час генерала Фралова разглядалі як магчымага лідара апазіцыі. Праўда, потым многія расчараваліся ў такой ідэі. У 2006 годзе сп.Фралоў такі вырашыў самастойна балатавацца ў прэзідэнты, але не сабраў патрэбных 100 тысяч подпісаў. Сёлета ягоную кандыдатуру зноў прапаноўвалі на рэгіянальных сходах актывістаў. Ён сам не адмаўляў магчымасць балатавацца. Цяпер ужо не лёс.

**Зміцер Панкавец**



**Фотафакт**

### У крывавай сечы пад Данецкам загінуў наймалодшы з «кібаргаў»

6 лістапада адбылося 26 баявых сутыкненняў сіл АТА з тэрарыстамі, загінулі трое ўкраінскіх вайскоўцаў, паведамляў прэс-цэнтр АТА. «Загінуў адзін з абаронцаў аэрапорта, «Север», 18 гадоў. Нядаўна яго фотаздымак абляцеў усе СМІ і сацсеткі, а цяпер яго не стала», — пішуць на ўкраінскіх старонках ў сацыяльных сетках.

## Загінуў сын кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта РФ Сяргея Іванова

Аляксандр Іваноў **загінуў у Аб'яднаных Арабскіх Эміратах**. Ён патануў 3 лістапада.

Аляксандр Іваноў нарадзіўся 18 сакавіка 1977 года ў Маскве. У 2000 годзе скончыў МГІМО па спецыяльнасці «сусветная эканоміка», у 2003-м — Фінансавую акадэмію пры ўрадзе РФ. Некалькі гадоў працаваў у ВТБ, у Знешэканамбанку — з 2006 года.

У маі 2005 года сын Іванова стаў удзельнікам ДТЗ у Маскве. У выніку загінуў пешаход —



68-гадовая Святлана Берыдзэ. Распачатая па факце гібелі чалавека крымінальная справа была закрыта, бо, паводле заключэння экспертаў, «кіроўца Іваноў А.С. не меў тэхнічнай магчымасці прадухіліць наезд на пешахода Берыдзэ С.К.».

**МБ**

## Стралкоў: Баявік «Абвер» не вытрымаў, калі маці пракляла яго ў жывым эфіры

«Што здарылася з правай рукой важака баевікоў Данбаса Ігара Стралкова (Гіркіна) па мянушцы Абвер?» — запытаўся слухач у часе жывога эфіру са Стралковым на расійскім радыё «Гаворыць Масква».

«Па-першае, не па мянушцы, а па пазыўным. Мянушкі ў сабак, — паправіў Стралкоў. — Ён спачатку аказаў досыць шмат дапамогі, шмат працаваў, але потым зламаўся. Прычына злому, вядома, цяжкі псіхалагічны ціск на яго. Бацькі ва Украіне. Адпаведна, пасля таго, як уласная маці праклінае ў жывым эфіры, вельмі цяжка чалавеку выконваць свае абавязкі. Ну, проста запіў. Мне прыйшлося адхіліць яго».

Пад пазыўным «Абвер» хаваецца 42-гадовы Сяргей Здрылюк, ураджэнец Вінніцкай вобласці Украіны. Ён служыў у СБУ ў Крыме і там уступіў у сувязь з расійскімі спецслужбамі. У красавіку 2014 ён уваходзіў у расійскую штурмавую групу, якая захапіла Луганск і Славянск.

СБУ выявіла ідэнтычнасць Абвера, пасля чаго пра яго шмат



гаварылі ўкраінскія СМІ. А родная маці пракляла яго за тое, што ён робіць з бацькаўшчынай.

Апошняя інфармацыя пра яго датуецца маем 2014 года.

**Сяргей Гезгала**

## У Маскве знайшлі цела акцёра Аляксея Дзявотчанкі

Акцёру было 49 гадоў, ён здымаўся ў міліцэйскіх серыялах, выканаў ролю Карэйкі ў «Залатым цяляці» (2006), Барыса Савінкава ў фільме «Сталыпін. Нявывучаныя ўрокі». Артыст двойчы быў уганараваны Дзяржаўнай прэміяй Расіі ў галіне літаратуры і мастацтва. Апошняя была прысуджана яму за ролю Хлестакова ў спектаклі «Рэвізор» па п'есе Мікалая Гогаля.

Яго цела знайшлі дома па Алтуф'еўскай шашы ў Маскве.

Аляксей Дзявотчанка быў членам Аб'яднанага грамадзянскага фронту ў Санкт-Пецярбургу, удзельнікам Маршаў нязгодных. У сакавіку 2010 падпісаў зварот расійскай апазіцыі «Пуцін павінен сысці». Браў удзел у іншых палітычных акцыях ліберальнага кірунку.

18 лістапада 2011 года ў сваім блогу ў «Жывым журнале» Аляксей абвясціў, што адмаўляецца ад звання «Заслужаны артыст Расіі» і двух Дзяржаўных прэмій Расіі.

У сакавіку 2014 года падпісаў ліст «Мы з Вамі!» Кінасаюза ў падтрымку Украіны.

**АГ**

# Расійскі рубель абясцэніўся больш, чым на траціну

Афіцыйны курс даляра ў Расіі дасягнуў 46 рублёў, еўра — 60. Фінансісты не маглі ўявіць такія лічбы у самым кашмарным сне.

У сярэдзіне лета, на момант увядзення амерыканскіх санкцый, курс не даходзіў нават да 35 рублёў. Дэвальвацыя нацыянальнай валюты — шок для любой эканомікі.

Што стала прычынай абвалу? Наўпрост ці ўскосна паўплываў «крымнаш». Але і без захопу Крыма рубель бы саслабеў.

### Грошай становіцца менш

Галоўны індыкатар стану расійскай эканомікі — цана нафты. Цана барэля нафты Brent упершыню з часу сусветнага крызісу скацілася ніжэй за $82, хоць яшчэ летам складала $115. Былы міністр фінансаў Расіі Аляксей Кудрын заклікае рыхтавацца да таго, што ў бліжэйшыя гады нафта будзе каштаваць $80—85.

Сусветныя фінансісты разыходзяцца ў прычынах падзення цаны. Некаторыя звязваюць сітуацыю з гульнёй Саудаўскай Аравіі. Іншыя тлумачаць проста — ЗША нарасцілі вытворчасць сланцавай нафты.

Найхутчэй, што справа сапраўды ў павышэнні прапановы. Нафтавы рынак агромністы, спекуляцыі яго не зрушаць.

Так ці інакш, але для Расіі, 40% бюджэту якой фармуецца ад продажу нафты і нафтапрадуктаў, гэта не лічачы газу, паніжэнне цэнаў азначае зацягванне паясоў і згортванне дзяржаўных праграм.

Напрыклад, дзяржаўная карпарацыя «Роснефть» просіць чыноўнікаў выдзеліць на інавацыйныя выдаткі больш за $50 мільярдаў. Але ў Фондзе нацыянальнага дабрабыту ўсяго застаецца каля $75 мільярдаў! Нафтавікам было адмоўлена ў заяўцы.

### Свабоду рублю

Летам расійскія чыноўнікі смяяліся з санкцый Захаду. Аднак абмежаванні спрацавалі, хоць і не адразу.

Вялікі бізнэс перастаў верыць у Расію і пачаў выводзіць капітал за мяжу. Гэты адток перавышае ўсе прагнозы. Да канца года лічба можа дасягнуць $125 мільярдаў — удвая больш, чым летась.

Імклівая, хоць і плаўная дэвальвацыя канчаткова падарвала веру ў рубель. Рынак ахапіла паніка, і грошы працягваюць прадацца. Толькі на падтрыманне курса расійскага рубля Цэнтрабанк у кастрычніку патраціў $30 мільярдаў. Золатавалютныя рэзервы скараціліся да мінімуму за пяць гадоў, але нават з такімі ўліваннямі рубель абваліўся.

Цэнтрабанк змяніў палітыку, хоць збіраўся зрабіць гэта з 1 студзеня. Банкіры больш не ўкідваць фіксаваныя сумы на біржу, маўляў, гэтым карысталіся спекулянты. Якая стратэгія прапанавая ўзамен? Невядома. З аднаго боку, курс рубля аб'яўлены свабодным, з іншага — Цэнтрабанк пакідае за сабой магчымасць ручнога кіравання. «Мы будзем выходзіць на валютны рынак з інтэрвенцыямі ў любы момант і ў тых аб'ёмах, якія неабходныя, каб збіць ажыятажны спекулятыўны попыт», — паабяцала калега Надзеі Ермаковай, старшыня расійскага Цэнтрабанка Эльвіра Набіуліна. Рынак паверыў ёй усяго на адзін дзень, пасля чаго курс даляра зноў пачаў расці.

### Псіхалагічная адтэрміноўка

Нягледзячы на дэвальвацыю рубля, значнага пагаршэння дабрабыту расейцаў пакуль не адбылося. Цэны ад пачатку года пакуль выраслі толькі на 7%.

Рэч у тым, што цэны адрэагуюць на рост курса валюты са спазненнем у некалькі месяцаў. Спажывец заўважыць дэвальвацыю, толькі калі ў продажы з'явяцца імпартныя тавары, закупленыя па новым курсе даляра.

### Беларускі інтарэс

Для беларускага спажыўца расійская дэвальвацыя — магчымасць выправіцца ў шоп-тур да суседзяў. Гэтаксама як расейцы скуплялі беларускія тавары ў 2011 годзе, беларусы рушаць на закупы на ўсход.

Напрыклад, аўтамабілі і бытавая тэхніка ўжо цяпер каштуюць на 20% танней, чым у Беларусі. Галоўнае не ўпусціць той момант, калі цэны будуць пералічаныя па новым курсе.

А вось для беларускіх вытворцаў дэвальвацыя ў суседзяў нявыгадная. Выручка з Расіі цяпер прыходзіць абясцэненая (у расійскіх рублях). Тым часам новы беларускі тавар даражэе ў рублях і губляе канкурэнтную перавагу на рынку.

### Што далей?

Расія па-ранейшаму мае гіганцкія золатавалютныя рэзервы. Яны хоць і знізіліся за год амаль на 100 мільярдаў даляраў, але ўсё яшчэ складаюць больш за 400 мільярдаў. Гэта дастатковая падушка бяспекі.

У той жа час Расія застаецца сыравіннай краінай з уладамі і насельніцтвам, якія не шануюць права, у тым ліку міжнароднага права.

Прагназуючы далейшае разгортванне падзей, аптымістамі застаюцца расійскія чыноўнікі і эксперты дзяржаўных кампаній і банкаў. «Рубель будзе даражэць да ўзроўню 40—41 рубель за даляр, — пераконвае аналітык «ВТБ 24» Станіслаў Клешчаў. — Мы лічым, што рубль ўжо дастаткова дэвальвавалі: ні дзяржаве, ні Цэнтрабанку далей нявыгадна патураць спекулянтам».

«Мы вітаем тое, што Цэнтрабанк перайшоў да рэжыму свабоднага вагання рубля. У доўгатэрміновай перспектыве гэта павінна аказаць падтрымку расійскай эканоміцы. Тым не менш мы па-ранейшаму без аптымізму глядзім на рубель, паколькі цэны на нафту зніжаюцца, а геапалітычная сітуацыя ўсё яшчэ нестабільная. У эканоміцы Расіі не відаць паляпшэнняў, а інфляцыя паскараецца», — выступіў з заявай Danske Bank.

**Ягор Марціновіч**

**Расійскі сярэдні заробак звальваецца да ўзроўню беларускага**

Паводле дадзеных Федэральнай службы дзяржаўнай статыстыкі Расіі, сярэдні заробак «брудныімі» ў верасні 2014 года склаў 31 071 рубель, гэта $820 па тагачасным курсе.

Заробак у Расіі не расце, ён вагаецца на ўзроўні +/- 1000 рублёў. Калі яго пералічыць па цяперашнім курсе, то атрымалася б усяго $670. Для параўнання, у Беларусі сярэдні заробак па такіх жа разліках складае каля $600.




**Абвальваецца і грыўня**

Праз вайну з Расіяй — спачатку эканамічную, а пасля сапраўдную — украінская валюта таксама імкліва дэвальвуецца. Даляр каштуе 15,8 грыўні, хоць год таму курс складаў 8 грыўняў. Фактычна, ва Украіне даляр падаражэў удвая.

## Сцісла

### Дзяржаўныя праекты каштуюць $725 мільёнаў

У 2015 годзе Банк развіцця будзе рэалізоўваць 35 праектаў. Сярод самых дарагіх — будаўніцтва Другой кальцавой аўтадарогі ($225 мільёнаў), трэцяй лініі метро ($44 мільёны), горна-абагачальнага камбіната «Сітніцкае» ($37 мільёнаў) і завода па перапрацоўцы сыроваткі «Праймілк» на Гродзеншчыне ($36 мільёнаў).

### У Мінску адкрываецца сямізальны кінатэатр

Трохпавярховы кінатэатр *Silver Screen Cinemas* запрацуе 13 лістапада ў будынку аўтавакзала «Цэнтральны» (ГЗЦ «Галілея»). Брэнд прыйшоў з Латвіі. У кінатэатры адкрытыя сем залаў агульнай змяшчальнасцю 800 чалавек. Стваральнікі абяцаюць паказваць выяву ў фармаце 4К — удвая лепшым, чым у астатніх кінатэатрах.

### «Белнафтахім» пачне гадаваць свіней

Канцэрн плануе патраціць 18 мільёнаў еўра на будаўніцтва свінакомплексу ў Рэчыцкім раёне. На базе агракамбіната ў вёсцы Холмеч будуць гадаваць дадатковыя 24 тысячы свінняў. Мяркуецца адкрыць свінакомплекс ужо ў канцы наступнага года.

### Шакуцін купіў сабе банк

Ранейшымі гаспадарамі «Абсалютбанка» былі кіпрскія структуры. Цяпер 99,64% акцый за 5,3 мільёна еўра былі прададзеныя наваполацкай кампаніі «Інтэрсэрвіс». Ёй у роўных долях валодаюць набліжаны да Аляксандра Лукашэнкі мільянер Аляксандр Шакуцін, а таксама паляўнічая гаспадарка «Чырвоны бор» ягонага кампаньёна Мікалая Вараб'я. «Абсалютбанк» — адзіны ў краіне банк, які сёлета паказвае чыстыя страты.

### Кватрплата падаражэе на 5,8%

Новыя тарыфы ўступяць у сілу 1 снежня. Плануецца, што сям'я з трох чалавек цяпер будзе плаціць за двухпакаёўку 442 тысячы рублёў. Адкуль узялася лічба «5,8%»? Паводле дадзеных Белстата, сярэдні заробак у трэцім квартале вырас менавіта на столькі.

### Магілёўскі аэрапорт чакае турыстаў

У 2015 годзе плануецца запусціць чартарныя рэйсы у Егіпет, Балгарыю і Турцыю. Такой дамоўленасці дасягнулі Магілёўскі аэрапорт і турыстычная кампанія «Ростынг». Пакуль што аэрапорт абслугоўвае толькі грузавыя і транзітныя самалёты.

**ЯМ**

**Прагноз**

## Ермакова: курс даляра на 2015 — 11350 рублёў

Старшыня Нацбанка Надзея Ермакова расказала, якія макраэканамічныя паказчыкі будуць закладзеныя ў бюджэт на наступны год. Паводле яе словаў, сярэднегадавы курс даляра складзе 11300—11400 рублёў, а стаўка рэфінансавання паводле вынікаў года — 16—17%. У залежнасці ад развіцця падзей на сусветных рынках сітуацыя можа змяняцца. «Урад мае адзін базавы варыянт дзеянняў і шэсць запасных», — патлумачыла Ермакова.

Ці варта давяраць прагнозам чыноўнікаў? План на 2014 год ужо сарваны. Сярэднегадавы курс даляра прагназаваўся на ўзроўні 9800 рублёў. Гэтая лічба была перадоленая ўжо ў сакавіку.

Рост цэнаў за год чыноўнікі хацелі стрымаць на ўзроўні 11%. Па стане на кастрычнік інфляцыя дасягнула 14,8%.

**ЯМ**

# Гепатыт С — «ласкавы забойца», бязлітасны да беларусаў, якія не маюць грошай на лячэнне

У Беларусі штогод рэгіструецца да 3 тысяч хворых на гепатыт С. На медыцынскім уліку цяпер стаіць каля 45 тысяч беларусаў з такім дыягназам. У рэальнасці іх больш: захворванне часта працякае без сімптомаў, чалавек можа хварэць гадамі і нават не здагадвацца пра гэта. У людзей няма звычкі без дай прычыны хадзіць па паліклініках і здаваць аналізы на гепатыт С. Тым больш, калі нічога не турбуе. Часта хворыя даведваюцца пра гепатыт С толькі на стадыі цырозу ці раку пячонкі.

У Гомельскай вобласці, па дадзеных абласнога цэнтра гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя, за 8 месяцаў 2014 года выяўлена ў тры разы больш хворых на вірусны гепатыт С, чым за аналагічны перыяд 2013 года (0,21 хворых на 100 тысяч жыхароў за 8 месяцаў 2014 года, 0,07 на 100 тысяч за 8 месяцаў 2013 года). Рост у 15% зафіксаваны і па хранічным вірусным гепатыце С (11,66 на 100 тысяч насельніцтва за 8 месяцаў 2013 года, 13,43 на 100 тысяч насельніцтва за 8 месяцаў 2014 года).



### «Прыбіць» за 15 тысяч даляраў

Для многіх хворых дыягназ гучыць як прысуд не толькі з-за цяжкасці хваробы, складанасці лячэння з-за шматлікіх пабочных эфектаў, сумных перспектыў (цыроз, рак пячонкі), але і з-за немагчымасці пачаць тэрапію, не маючы неабходнай сумы грошай. Лячэнне платнае і вельмі дарагое — да 90 тысяч даляраў за курс, калі браць самыя сучасныя лекі. Самыя ж танныя сучасныя лекі — так званыя «кароткія інтэрфероны» — каштуюць ад 3 да 5,5 тысяч даляраў за курс. Але яны нізкаэфектыўныя, са шматлікімі пабочнымі эфектамі, якія цяжка пераносяцца. Хворыя часта выбіраюць «залаты стандарт» — тэрапію з 2 кампанентаў, «пегасіса» ці «пегінтэрферона» з рыбаверынам. Кошт такой тэрапіі ў залежнасці ад генатыпу — 7—15 тысяч даляраў. І гэта — без кошту даследаванняў, аналізаў, іншых дадатковых лекаў.

Тэрапія з трыма кампанентамі, якая лічыцца больш эфектыўнай, каштуе да 55 тысяч даляраў.

У 2013 годзе СМІ абляцела гісторыя маладога доктара-траўматолага з Гомеля Сяргея Малашанкі. Ён сцвярджаў, што захварэў на працы, хоць гэта і цяжка даказаць, і прасіў дапамагчы яму сабраць сродкі на лячэнне. Грошы былі сабраныя, і ў маі 2014 года доктар даў справаздачу на сваім сайце, што ўдала скончыў тэрапію.

Жыхарка Гомеля Наталля, маладая маці, лечыцца зараз ад гепатыту С, маючы самы горшы, першы генатып. У краінах Еўропы найбольш распаўсюджаны першы, другі і трэці генатып. Першы найбольш цяжка паддаецца лячэнню, эфектыўнасць тэрапіі — у сярэднім каля 50%. Лячыцца трэба 48 тыдняў (15 тысяч даляраў). З другім ці трэцім генатыпам курс лячэння — 24 тыдні, адпаведна, і кошт меншы — каля 7 тысяч даляраў.

У Наталлі трое малых дзяцей. Яна працуе ў сферы абслугоўвання, таму прыбыткі, разам з «дзіцячымі» — смеху варта. У мінулым годзе маладая маці развялася з мужам. Таму апынулася перад мноствам праблем сам-насам. «Я даведалася пра гепатыт С у 1999 годзе. Але дактары супакоілі, што нібыта гэта — нічога страшнага. Яны мяне ўпэўнілі, што гепатыт С не лечыцца, таму не варта марнаваць грошы. Гэта цяпер я ведаю, і тое, дзякуючы інтэрнэту, што лячыцца можна! А так колькі гадоў жыла сабе, дзяцей нараджала — дзякуй Богу, што яны не захварэлі, і нават не спадзявалася на лячэнне», — распавядае Наталля.

### Не паложана

Яна не ведала і таго, што да 2009 года магла б лячыцца бясплатна, пакуль дзяржава не скасавала такую норму. «А мяне ўсе дактары супакойвалі, што ўсё нармальна. Толькі ў 2013 годзе я прайшла даследаванне ў Кіеве — фібраскан, які паказаў, што ў мяне развіваецца цыроз, таму трэба тэрмінова лячыцца. Гэта быў шок і жах. Дзе ўзяць 15 тысяч даляраў?» — успамінае маладая маці.

Жанчына напісала шэраг лістоў — у Міністэрства аховы здароўя, у Адміністрацыю прэзідэнта, просячы дапамогі ў лячэнні.

«Я шматдзетная маці! Заразілі мяне, хутчэй за ўсё, пры родах першага дзіцяці — менавіта пасля яго нараджэння, пасля кесаравага, у мяне і выявілі той гепатыт. Ну ўявіце! Я не наркаманка, татуіровак не рабіла, аперацый, пералівання крыві таксама! Вось толькі роды былі. І пасля родаў выпадкова, праз чатыры месяцы, выявілі той гепатыт! Адкуль? Чаму я павінна лячыцца за свае сродкі, калі дзяржава вінаватая, што праз медыцынскія ўстановы мы можам заразіцца?» — пытаецца Наталля.

Па яе словах, адказы з інстанцый былі аднолькавыя: лячэнне платнае, для ўсіх катэгорый грамадзян. Год Наталля збірала грошы, ашчаджала кожную капейку. «Я б і не лячылася за такія грошы! Пры 50% магчымасці вылечыцца. Але ж дзеці?! На каго я іх пакіну? Іх і бацька нават кінуў», — бядуе жыхарка Гомеля.

Часткова грашыма ёй дапамаглі бацькі, і Наталля пачала тэрапію «доўгімі» і дарагімі інтэрферонамі. Першыя два ўколы прадставіла бясплатна, як і ўсім хворым, якія наважыліся лячыцца, інфекцыйная бальніца. Далей — за свае сродкі. «Разам з аналізамі, даследаваннямі, лячэннем пабочных эфектаў у месяц трэба было недзе як мінімум 11 мільёнаў рублёў. Але жах быў не толькі ў касмічных сумах, але ў самой тэрапіі», — звяртае ўвагу суразмоўца.

### Пакута

У яе пасля першых жа ўколаў пасыпаліся валасы, праз два месяцы пасля жорсткай атакі арганізма небяспечнымі ўколамі і таблеткамі пачаліся праблемы са страўнікам, кішэчнікам. Не вытрымала такі «пегінтэрферонавы» націск і шчытавіца. Прыйшлося падключаць гарманальныя прэпараты. Пачаліся праблемы з псіхікай, са сном.

«Я стала страшна раздражнёная, проста магла сарвацца на роўным месцы, накрычаць на дзяцей, хоць такога са мной ніколі раней не было. Доўгія пакутлівыя ночы без сну, тэмпература да 39 пасля ўколаў, і яшчэ тры дні пасля тых уколаў ляжыш пластом, калі, канечне, гэта было б магчыма з трыма дзецьмі. Лячэнне — тое ж, што хіміятэрапія», — дадае Наталля.

Днямі яна скончыла 48-тыднёвы «марафон». Пакуль аналізы паказваюць, што віруса няма ў арганізме. Але здараецца, што ён вяртаецца, нават праз 6 месяцаў, і праз год, і праз паўтара. Трэба кантраляваць, здаваць аналізы. «Не хачу нават і думаць, што вірус вернецца, што ўсё гэта — мільёны грошай, апошняе здароўе, якое «легла» ў барацьбе з гепатытам, — было марным. Я проста гэта не вытрымаю. Хаця вытрымаю, куды мне дзецца? Але другую тэрапію, а другі раз ужо можна толькі безінтэрферонавую праводзіць, раз інтэрферонавая не дапамагла, я ніяк не пацягну. 90 тысяч даляраў? Мне такія грошы нават не сніліся!» — заўважае маладая жанчына.

### Нуль сімптомаў, і мноства пабочных эфектаў пры лячэнні

Часцей за ўсё хваробу выяўляюць выпадкова, калі чалавек здае кроў пры, напрыклад, паступленні на планавую аперацыю, пры цяжарнасці, калі будучыя маці становяцца на ўлік. Сімптомаў гепатыту С можа наогул не быць, а могуць быць такія непадобныя на захворванне пячонкі сімптомы, як болі ў суставах. Чалавек можа хутка стамляцца, але наўрад ці гэта прывядзе яго да думкі пра гепатыт С. Часам стома, млявасць — адзіны, хоць і неінфарматыўны, сімптом гепатыту С.

Захворванне перадаецца праз кроў, вельмі рэдка — палавым шляхам ці ад маці да дзіцяці, а праз бытавы шлях заразіцца наогул немагчыма. А вось у манікюрных салонах, стаматалагічных кабінетах, салонах тату, якія абыякава ставяцца да стэрылізацыі інструменту — вірус падхапіць можна, і лёгка. Ну, і ў наркаманаў гэта тыповая хвароба.

### «Грашу на стаматалогію»

Жыхарка аднаго з райцэнтраў Гомельскай вобласці нават не здагадвалася, адкуль у яе арганізме з'явіўся гепатыт С. «Грашу на нашу стаматалогію — часта там лячыла, асабліва пасля нараджэння дзіцяці былі праблемы з зубамі. Усё была нейкая слабасць, млявасць, суставы балелі. Хадзіла па розных дактарах, выпадкова выявілі гепатыт. На нармальнае лячэнне не было грошай — адкуль? Пачала лячыцца «кароткімі» інтэрферонамі, недзе больш за мільён у месяц. Але ж гэта не тысяча даляраў, як «доўгія» інтэрфероны каштуюць», — тлумачыць Святлана.

Розніца ў «кароткіх» і «доўгіх» інтэрферонах не толькі ў кошце, але і тым, што «кароткія» ін'екцыі трэба ўводзіць спачатку кожны дзень, потым — праз дзень. Больш пакут, і меншыя працэнты выздараўлення.

Святлана ўсё-такі спадзяецца, што і «рэаферонам» здолее «прыбіць» вірус. У яе — трэці генатып віруса гепатыту С. Лічыцца, што ён лепш паддаецца лячэнню, курс якога — 6 месяцаў, а не год, як пры першым генатыпе.

Калі пра «доўгія», больш эфектыўныя прэпараты-інтэрфероны Святлана нават не марыць — бо адкуль грошы? — то пра навінку ў лячэнні гепатыту С — софасбувір за 90 тысяч даляраў, — слухае з саркастычнай усмешкай на твары.

### Фібраскан ці падман?

Праблемы ў лячэнні гепатыту С не толькі ў фінансах, але і дыягностыцы. Пры нулявым фіброзе (што значыць, што вірус яшчэ не разбурыў пячонкі і не дайшло да цырозу) можна пакуль і не лячыцца. Ступень фіброзу вызначаецца біяпсіяй (міні-аперацыяй) ці фібрасканам (апарат, які скануе пячонку ў некалькіх пунктах, працэдура праходзіць хутка, без болю, падобная да УЗІ).

Да кастрычніка 2014 года беларусы былі пазбаўлены нават магчымасці прайсці фібраскан — такой паслугі не было ў РБ. Таму хворыя ездзілі для даследаванняў у іншыя краіны.

Напрыклад, у Вільні можна было прайсці фібраскан за 200 літаў (850 тысяч рублёў). У Смаленску — прыкладна за 1,1 мільёна беларускіх рублёў. У Кіеве працэдура каштуе ад 1200 да 1500 грыўняў (каля мільёна беларускімі).

У кастрычніку 2014 года нарэшце было абвешчана, што «працэдуру эластаграфіі пячонкі» можна зараз прайсці і ў Мінску, у гарадской клінічнай інфекцыйнай бальніцы на Крапоткіна, 76. Кошт працэдуры — каля 500 тысяч беларускіх рублёў. Але і тут хворых чакала «засада».

На беларускім гепатыт-форуме другі месяц працягваюцца спрэчкі: ці на самай справе новы апарат ёсць той самы фібраскан? Выявілася, што апарат той называецца *Aixplorer*, і ён не фібраскан, а яго аналаг ці нешта падобнае. У гарадской інфекцыйнай бальніцы па тэлефоне адказалі, што апарат праводзіць эластаграфію пячонкі, і ўдакладнілі, што гэта «той самы фібраскан». Хворыя ж сцвярджаюць, што іх папросту падманваюць.

### Карпарацыі падлічваюць прыбыткі

Карпарацыя *Gilead* у 2013 годзе ўрачыста абвясціла пра прарыў у лячэнні гепатыту С — новыя «цуда-таблеткі» софасбувір. Маўляў, гэта таблеткі, а не ўколы, якія маюць мінімум пабочных эфектаў, і максімум выздараўлення. Толькі наўрад ці большасць хворых беларусаў будуць усур'ёз задумвацца пра софасбувір, адна таблетка якога каштуе 1 тысячу даляраў.

Дарэчы, вядомы беларускі прадзюсар Макс Алейнікаў збіраецца лячыцца, напэўна, менавіта софасбувірам, на які збірае зараз грошы, тыя самыя 90 тысяч даляраў.

І яшчэ некаторая інфармацыя пра новыя «цуда-лекі». Прэпарат «Совасбувір» (савальдзі) быў зарэгістраваны ў ЗША ў снежні 2013 года, у Еўропе — у студзені 2014. Лекавы сродак характэрызуецца высокай эфектыўнасцю ў лячэнні гепатыту С. Кошт 12-тыднёвага курсу лячэння — каля 90 тысяч даляраў. Пры гэтым фармацэўтычная карпарацыя не гарантуе 100%.

Тым часам карпарацыя *Gilead* плануе выпусціць новую версію прэпарату і павялічыць кошт лекаў. І гэта пры тым, што чакаецца, што ў 2014 годзе продаж софасбувіру прынясе вытворцу прыбытак 12 млрд даляраў.

### Патрэбная сістэма

У іншых краінах свету, калі гавараць пра цывілізаваныя дзяржавы, ад гепатыту С лечаць па страхавой медыцыне, дзе бясплатна, а дзе са значнымі зніжкамі.

Нават у Расіі значная частка хворых можа трапіць у бясплатныя праграмы і вылечыцца ад гепатыту С.

У Казахстане хворых ставяць на чаргу, і яны атрымліваюць бясплатнае лячэнне.

У Грузіі для хворых дзейнічае 60% зніжка на прэпараты.

Беларусы ж застаюцца са сваёй бядой сам-насам. Дактары ці раяць не пераймацца (спакойна чакаць цырозу ці раку пячонкі), ці прапануюць раз-два на год «пракапацца» лекамі, якія нібыта бароняць пячонку. Ці шукаць грошы.

Трэба, каб Міністэрства аховы здароўя распрацавала новую схему, як ратаваць беларусаў ад гэтай страшнай хваробы — гепатыту С.

**Юлія Шымкевіч**

**Гепатыт С**

– хвароба, якой у свеце хранічна інфікаваныя 150 мільёнаў чалавек. Яе інфекцыйнага агента адкрылі толькі ў 1989 годзе. Дарэчы, і ўзбуджальнікаў гепатытаў А і В адкрылі параўнальна нядаўна, у 1970—80-я. Гепатыт С працякае без жаўтухі, але з характэрнай слабасцю, поўным упадкам сілаў.

# Здаў «Додж» пакатацца непаўналетняму. За бутэльку

**У аварыі загінулі** дзве найлепшыя сяброўкі.


Удар прыйшоўся на правы бок машыны.

7 лістапада ў аварыі на вуліцы Ванеева ў Мінску кампанія на «Доджы» ўрэзалася ў ліхтар. 16-гадовая школьніца загінула на месцы, а яе сяброўка-першакурсніца сканала ў бальніцы. А вось у кіроўцы і яшчэ двaіх пасажыраў, можна сказаць, ні драпіны.

18-гадовы смаркач, як мяркуецца, не даў рады кіраванню на павароце. Правы ён атрымаў толькі два месяцы таму, але ж сеў за руль аўтамабіля з вялікім рухавіком — 5,7 літра. І гнаўся.

Адкуль у моладзі была гэтая машына? «Додж», як высветлілася, быў узяты напракат сябрам кіроўцы.

### Западала педаль?

«У мяне ёсць дзве машыны: «Додж Чарджэр» і «Фальксваген Пола». З нядаўняга часу я спрабаваў пачаць пракатную дзейнасць, але справа не ішла. Выпадкова натрапіў на аб'яву і даў машыну пакатацца. Гэта было некалькі тыдняў таму. Далей я даваў «Додж» на тых жа ўмовах яшчэ аднойчы. І ў апошні раз — учора...» — тлумачыў на сайце Onliner.by уласнік аўто на наступны дзень пасля трагедыі.


Ганна і Дарына былі найлепшымі сяброўкамі — і загінулі ў адной аварыі.

Паводле абвестак у інтэрнэце, ён здаваў «Додж» па $110 за суткі. Але дамовы на здачу «Доджа» гэтым разам не было. Уласнік патлумачыў, што маладзёны расплачваліся іначай — бутэлькай замежнага алкаголю. Была заключана толькі дамова на карыстанне машынай.

Прычым з непаўналетнім хлопцам, у якога не было правоў. Але за стырно сядаў ягоны сябар, які меў пасведчанне кіроўцы.

У інтэрнэце захавалася старонка, на якой уладальнік аўто за некалькі дзён да трагедыі напісаў пра няспраўнасці ў гэтай машыне. «Праблема ў наступным. Пры разгоне машыны да 4000 абаротаў альбо пры рэзкім тармажэнні загараецца памылка ESP BAS. Пры гэтым машына па адчуваннях перастае цягнуць. Але самае пацешнае, што пры моцным націсканні тормазу — педаль правальваецца і машына ідзе юзам. То бок сістэма ABS не працуе». Фактычна, у экстранай сітуацыі магутны аўтамабіль мог станавіцца некіраваным. Паводле правілаў дарожнага руху, на машыне з няспраўнымі тармазамі ездзіць катэгарычна нельга.

Гаспадар напісаў, што замовіў новы датчык, каб вырашыць праблему, але яго не паспелі прывезці.

Адразу пасля аварыі ўласнік аўто выдаліў свой запіс з інтэрнэту.

### Хацеў праскочыць

На «Доджы» быў усталяваны GPS-трэкер — прылада, якая дазваляе вызначыць дакладнае месцазнаходжанне машыны. Паказвае прыбор і хуткасць.

Паводле словаў гаспадара, перад аварыяй малады кіроўца паскорыўся, каб праскочыць на мігаючае зялёнае святло. «Паскараўся з хуткасці 65 км/г. Напэўна, не разлічыўу магутнасць аўто... З другой паласы рэзка перастроіўся направа, машына пачала віляць і заехала коламі на бардзюр — кіраванне было цалкам страчанае. Тармазнога шляху не было ў прынцыпе — кіроўца спрабаваў «выйсці» пры дапамозе стырна, вывернуў налева, і правым бокам машына ўрэзалася ў слуп», — расказваў уласнік.

### Ехала на заняткі

«Дарына ехала да бабулі займацца англійскай мовай, тая выкладае ў школе. Позна выйшла і, як мы мяркуем, папрасіла


Гаспадар здаваў свой «Додж» па $110 за дзень.

сяброўку падвезці, — расказала «НН» другая бабуля школьніцы Сафія. — Дарына жыла на вуліцы Берута, а ехала ў Серабранку. Я патэлефанавала ёй у 9:45. Вясёлая такая была, збіралася таксі браць... І той бабулі сказала пра таксі. А ў 11 гадзін сказала, што ўжо едзе. Тая бабуля пачала ёй тэлефанаваць, калі яна не з'явілася. Пачала абзваньваць таксапаркі, а там сказалі, што з таго адраса таксі не выклікалі. А пасля ўжо сыну патэлефанавалі. Яны з малодшымі дзецьмі былі ў Польшчы на выхадных. Дарына — старэйшая ў сям'і, аднаму хлопчыку 11 гадоў, другому хутка 4».

Дарына ў наступным годзе мусіла скончыць сталічную гімназію №1. Хацела ехаць вучыцца ў Польшчу. Сёлета цэлы жнівень займалася польскай мовай.

«Мне пішуць: змірыцеся, хадзіце на магілкі... А мая ж дзяўчынка нават ні з адным хлопцам не сустракалася. Нават саромелася, калі мы загаворвалі пра гэта: «Бабуля, ну ты што, мне цяпер вучыцца трэба — якія хлопчыкі». Усё аддавала вучобе, — плача Сафія. — У яе два малодшыя брацікі. 13 студзеня ёй споўнілася б 17 гадоў. Я цяпер ненавіджу лічбу 13. І ўвогуле не магу на маладых глядзець».

Ганна, якая памерла ў бальніцы, была найлепшай сяброўкай Дарыны. Яна вучылася ў БНТУ, мела толькі 17 гадоў.

«Кіроўца быў цвярозы. Мера стрымання не абіралася», — паведаміў прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта па Мінску. Следчы камітэт завёў крымінальную справу за парушэнне ПДР, што пацягнула дзве смерці.

Сяргей Макарэвіч

---

### Вышук



**Забойства і падпал**

30-гадовы Сяргей Хмялеўскі падазраецца ў двайным забойстве ў Мінскім раёне і падпале дома. Мяркуецца, што ён зарэзаў гаспадара і яго сужыцельку, а каб схаваць злачынства, падпаліў іх дом. Пры сабе можа мець нож. Хто ведае месцазнаходжанне чалавека на фота, звяртайцеся на 102.

## Сцісла

### На 160 км/г уехаў у слуп

Аварыя адбылася каля 3 гадзін ночы 10 лістапада. Citroen Xantia ў Наваполацку на дарозе ў бок завода «Палімір» выскачыў на сустрэчную паласу і ўехаў у бетонны слуп. Загінулі 27-гадовы кіроўца і абодва пасажыры — 23 і 24 гадоў. Пасля ўдару стрэлка на спідометры засталася на адзнацы 160 км/г. Экспертыза выявіла ў крыві кіроўцы 2,7 праміле алкаголю (моцная ступень ап'янення).

### Згвалтаваў маладую маму

31 кастрычніка ў Вілейцы расіянін, які жыве ў нашай краіне, згвалтаваў маладую маму. 27-гадовая жанчына вярталася з працы ўвечары, калі да яе падышоў мужчына нападпітку і прыставіў нож. Калі на месца здарэння выехала аператыўная група, туды ж вярнуўся і нападнік. У 36-гадовага гвалтаўніка таксама ёсць сям'я.

### Купіла камень за $500

23-гадовая жыхарка сталіцы праз інтэрнэт замовіла дарагі мабільнік і пералічыла за яго 5 мільёнаў рублёў. Праўда, у пасылцы атрымала не тэлефон, а камень. Звярнулася ў міліцыю. Махляром аказаўся 17-гадовы студэнт з Наваполацка. Правяраецца яго магчымая датычнасць да іншых падобных спраў.

### Шукайце жанчыну

У вайсковай часці паблізу Лунінца раніцай 2 лістапада скончыў жыццё самагубствам афіцэр. Старшы лейтэнант прыставіў табельную зброю да галавы і застрэліўся. Пацярпелага даставілі ў рэанімацыйнае аддзяленне бальніцы, дзе той памёр. 25-гадовы хлопец паходзіў з Бабруйска, нежанаты. Яго сябры кажуць, што ўсё здарылася праз нападзеленае каханне.

### Школьнікі ўгналі МАЗ

Прадпрымальнік з Салігорска пакінуў МАЗ увечары на вуліцы каля платнай стаянкі, а раніцай яго там не знайшоў. Грузавік знайшоўся пазней у іншым месцы. Выявілася, што МАЗ угналі салігорскія і старобінскія школьнікі, а таксама навучэнец сталічнага каледжа. У дадатак, калі ехалі, яшчэ пашкодзілі і «Сітраен». Заведзена крымінальная справа.

### Беларусы параніліся ў Піцеры

Пяцёра беларусаў пацярпелі пры абрушэнні рыштаванняў на будаўніцтве жылога комплексу «Васілеостраўскі квартал» Горнага ўніверсітэта ў Санкт-Пецярбургу. Інцыдэнт адбыўся 6 лістапада. Беларусы праводзілі фасадныя работы на другім паверсе. Пры падзенні атрымалі страсенні, пераломы, траўмы брушыны. Заставацца ў бальніцы адмовіліся.

### Скупілі мільён даляраў

Двух мінчукоў, нарказалежных братоў, абвінавачваюць у лжэпрадпрымальніцтве. Яны зарэгістраваліся ў якасці прадпрымальнікаў з відам дзейнасці «продаж будматэрыялаў». А ўзяліся за адмыванне грошай: наяўныя рублі пераводзілі ў даляры і вярталі. За кожную аперацыю атрымлівалі ўзнагароду. Толькі за пяць месяцаў яны купілі ў банках $1,2 мільёна. Шкода дзяржаве ацэнена ў 3,4 мільярда рублёў.

КМ

# Швейцарскія навукоўцы знайшлі замену антыбіётыкам

Даследчыкі з Бернскага ўніверсітэта стварылі ўніверсальны сродак для лячэння бактэрыяльных інфекцый без выкарыстання антыбіётыкаў, што можа прадухіліць развіццё антыбіётыкаўстойлівасці.

Сусветная арганізацыя аховы здароўя (СААЗ) неаднаразова папярэджвала пра рост відаў бактэрый, устойлівых да дзеяння антыбіётыкаў. Калі антыбіётыкі не змогуць больш душыць рост і размнажэнне патагенных бактэрый, нават пнеўманія зможа прывесці да смяротнага зыходу.


Агульны выгляд ліпасомнай наначасціцы ў разрэзе.

Цяпер навукоўцы распрацавалі наначасціцы на аснове ліпідаў — так званыя ліпасомы, якія па сваёй структуры нагадваюць мембрану клеткі-гаспадара. Гэтыя наначасціцы дзейнічаюць як прынада для бактэрыяльных таксінаў, у выніку чаго могуць іх душыць і нейтралізаваць. Без таксінаў мікраарганізмы аказваюцца безабароннымі перад клеткамі імуннай сістэмы арганізма і могуць быць лёгка знішчаныя імі.

Дзякуючы лячэнню эксперыментальнымі часціцамі, мышы, у якіх развіўся сэпсіс, выжылі без дадатковай антыбіётыкатэрапіі. «Мы стварылі непераадольную прынаду для бактэрыяльных таксінаў. Ліпасомы прыцягваюць іх, і пасля іх злучэння бактэрыі могуць быць лёгка знішчаныя без шкоды для клетак арганізма-гаспадара», — адзначылі аўтары ў сваім артыкуле.

**Лявон Максюта**

**Фотафакт**



**Дзе шукаць папараць-кветку? У пашпарце грамадзяніна РБ**

Цікавым фактам падзяліўся журналіст з Брэста Станіслаў Коршунаў. «Я заўсёды лічыў беларускі пашпарт звычайным з эстэтычнага пункту гледжання. Пакуль не даў яго на праверку памежніку. Аказваецца, на кожным развароце адмысловым чарнілам нанесеныя галінкі папараці, нумары старонак і надпіс «ПАШПАРТ». Яны свецяцца на спецыяльным сканеры. Вось дзе трэба шукаць папараць-кветку!» — напісаў Коршунаў у сваім акаўнце ў *Facebook*.

# У Беларусь афіцыйна прыйдзе Motorola

Кампанія Lenovo будзе афіцыйна пастаўляць у Беларусь **смартфоны і разумныя гадзіннікі**, паведаміў кіраўнік прадстаўніцтва Lenovo ў Беларусі Вейцзянь Чжоу.



Кіраўнік прадстаўніцтва *Lenovo* абяцае, што па вырашэнні арганізацыйных пытанняў у Беларусь будуць пастаўляцца гаджэты пад брэндам *Lenovo*, у тым ліку смартфон *Nexus* 6 і разумны гадзіннік *Moto 360*. Паводле яго прагнозу, гэта мае адбыцца ўжо ў наступным годзе.

«Белы» рынак смартфонаў у Беларусі ён ацэньвае ў мільён штук у 2015 годзе, з іх *Lenovo* плануе захапіць не менш за 10%.

Заснаваная ў 1928 годзе *Motorola* была адным з піянераў мабільнай сувязі і знаходзілася ў шэрагу галоўных вытворцаў мабільных тэлефонаў да 2000-х, пасля чаго пачала несці страты. У 2011 годзе вытворчасць мабільных тэлефонаў была вынесеная ў асобную кампанію *Motorola Mobility*. У тым жа годзе кампанія Google купіла мабільнае падраздзяленне за 12,5 млрд даляраў. У 2014 годзе *Google* перапрадаў яго кітайскай *Lenovo* за 2,9 млрд.

**Алесь Жарскі**



**Камертон Сяргея Ваганава**

# Зніклы Янак,
## альбо Вось куля прыляцела

Кожны год, як толькі надыходзіць 7 Лістапада, адчуваецца млявае ўзбуджэнне грамадскай думкі і чарговы ўсплёск дзяржаўнага этыкету. Вось і сёлета кіраўнік дзяржавы павіншаваў суайчыннікаў са святам Кастрычніцкай рэвалюцыі, адзначыўшы, што беларусы «...не адмаўляюцца ад свайго мінулага, але і не жадаюць адступацца ад суверэннага права самастойна вызначаць сваю будучыню». Напярэдадні, праўда, ён запэўніў грамадства, што не надае святу палітычнага сэнсу, адное што нагода для падарункаў сумуючаму па падарунках народу...

Шчыра кажучы, я не ведаю, як паставіцца да ўсёй гэтай блытаніны. Мусіць, Аляксандр Рыгоравіч калісьці так пранікнёна ўспрыняў ідэі сацыяльнай справядлівасці па-бальшавіцку, што дасюль лічыць крывавы па наступствах кастрычніцкі пераварот святочнай часткай беларускай мінуўшчыны. Больш за тое — падмуркам для беларускай будучыні. І яшчэ больш — гістарычным шчасцем беларусаў. Бо віншаваць суайчыннікаў з гістарычнай трагедыяй нават для Аляксандра Рыгоравіча відавочная бязглуздзіца.

Я не ведаю, як вучыўся Саша Лукашэнка гісторыі, але пачыналася тое прыкладна ў тыя ж часы, што адлюстраваліся ў гэтым здымку. 1963 год, вёска Далёкія на Браслаўшчыне, 7 лістапада, 8 клас, мае вучні. Валюсь, Алег, Юзік, Рэня, Здзіслава...

Янака на здымку няма. Янак знік. Толькі я ведаю, куды знік Янак напярэдадні 7 Лістапада.



Дзве падзеі адбыліся ў вёсцы напярэдадні.

Адна больш чым звыклая: чарговы раз абрабавалі вясковую краму.

Другая падзея была справай рук Янака: выстругаў з дошкі нешта накшталт маўзера, прыладзіў металічную рулю, нейкі спускавы механізм... Стрэлы ля рэчкі пачула Раіса Пракопаўна, завуч. Адабрала «маўзер», прынесла ў настаўніцкую, ткнула мне ледзь не ў твар: «Вось што робіць ваш Янак! Усё, хопіць, хай ідзе ў калонію... Краму ён абрабаваў, не сумняюся...»

І навошта я націснуў курок? Прагучаў стрэл, з чорнай дзіркі ў столі пасыпаўся вапенны пыл. Усе збялелі.

Паслалі па Янака. Але ён некуды знік. Мо ў хаце?

...Янак... Янак... У яго былі па-ваўчынаму вострыя, прыціснутыя да галавы, вушы і калючы натапыраны позірк. Сам ён быў не па сваіх пятнаццаці гадах малы, хілы, але ўсё, што здаралася ў вёсцы — ад кінутай у комін здохлай вароны да крадзяжу з крамы, — валілася на яго. Мы пасябравалі. Ён прыходзіў да мяне гуляць у шахматы, я даваў яму кнігі...

...На ложку, пад зашмальцаванай пярэстай коўдрай, ляжала хворая маці. «Хто тут? Настаўнік? Не, няма Янака, шчэ не прыходзіў... Дапамажыце, настаўнік, загіне хлапец... Каб жывы быў бацька...»

Бацька Янака глядзеў на мяне з пажоўклых фотаздымкаў, уціснутых па вясковай звычцы ў адну раму на пабеленай вапнай, таксама жаўцелай, сцяне. Вось ён трымае пад аброць каня, намагаючыся не губляць ганарлівую постаць польскага жаўнера. А вось напружана сядзіць у форме таго ж жаўнера, паклаўшы на калені шаблю...

Я пазычыў хутка паправіцца і моўчкі сышоў.

...Апошні раз Далёкія палілі ў 1953-м. Тады ж загінуў старшыня сельсавета, муж Раісы Пракопаўны. Гаварылі, што Янкаў бацька забіў. Так ці інакш, Янак стаў яе асабістым ворагам: турма, калонія — не самае страшнае, што рыхтавала яму яе пашкоджаная няўтольнай помстай свядомасць...

А бацька Янака загінуў у тым жа 53-м, калі ягоны атрад «лясных братоў» абклалі ў лесе з усіх бакоў.

...Так, я ведаю, дзе шукаць Янака.

У кастрычніку, калі асіны асвятляюць змрочны яловы лес барвовакрывавым полымем, ён павёў мяне ў ягоную непазнавальную глыбіню. На паляне, да якой дабіраліся гадзіны тры, захаваліся яшчэ паўзруйнаваныя зямлянкі, сляды ад вогнішчаў, вакол былі раскіданы рэшткі нейкай амуніцыі, лопнутыя катлы, іржавыя вёдры, у дрэвах — пазелянелыя дзіркі ад куль...

Адкуль прыляцелі тыя кулі? З якой гістарычнай далечыні?

...А Янаку ўсё ж дапамог, уратаваў ад калоніі ці турмы. Пасля васьмі класаў ён пайшоў у ПТВ. Потым працаваў механізатарам у калгасе, потым з'ехаў у Латвію — многія з браслаўскіх мясцін напрыканцы савецкіх гадоў шукалі там працу, уладкаваны побыт і сямейнае шчасце. Знік Янак з Далёкіх.

А сёлета знікла з Далёкіх і школа.

Застаўся здымак 50-гадовай даўніны. І такія родныя твары. Дзе яны — Валюсь, Алег, Юзік, Рэня, Здзіслава...? Дзе іх дзеці, унукі? Ці знайшлі яны сабе абяцанае беларускае шчасце?

# «Я выратую вас ад сатаны»

Мінчук **пазрэзаў жонку і дзяцей**, а потым на машыне забіў мужчыну і жанчыну.

Сатанінскія дні: 7 лістапада ў Мінску разбілася моладзь, а 8 лістапада дзікае вар'яцтва перажыў ціхі раён прыватнага сектара на Смаргаўскім тракце.

Паспяховы, здавалася б, бізнэсовец: здымалі паверх у прыватным доме. І вось нешта перамкнула ў галаве, што знявычыў жонку і малалетніх дзяцей, а потым у адных трусах сеў за руль свайго саліднага «Аўдзі А8» ды на хуткасці 150 кіламетраў за гадзіну пратараніў выпадковую машыну на дарозе так, што яна праляцела 70 метраў.

У суботу каля 10-й гадзіны суседка катэджа, у якім сям'я здымала другі паверх, пачула лямант. «Я выратую вас ад сатаны», — крычаў мужчына. А крыкі дзяцей і жанчыны былі такімі страшнымі, што жанчына без ваганняў выклікала «хуткую дапамогу».

Калі медыкі прыехалі да катэджа на 5-м Смаргаўскім завулку, не змаглі трапіць унутр — уваход быў заблакаваны.

38-гадовы Эдуард паспеў за гэты час выехаць на сваёй «Аўдзі А8», справакаваць аварыю і ў адных трусах вярнуцца назад у катэдж. Суседзі знялі гэтую нямую сцэну на відэа, яно ёсць у інтэрнэце.


Што ў гэтых вачах?

### «Тата жывы?»

Пасажыры «Аўдзі-100» трапіла пад удар «Аўдзі А8» на скрыжаванні, а кіроўца і пасажыр загінулі на месцы. «Аўдзі А8» пратараніла яшчэ чатыры легкавікі і толькі тады спынілася.

Эдуарда затрымалі дома, мужчына замкнуўся. Міліцыя сарвала з вокнаў краты, залезла праз другі паверх. Унутры ў шокавым стане знаходзіліся акрываўленыя жонка, 8-гадовая дачка і 3-гадовы сын. Усіх шпіталізавалі, сына ў вельмі цяжкім стане, але дактары абяцаюць, што дзеці выжывуць і не стануць інвалідамі.

«Тата жывы?» — пацікавілася 8-гадовая Сафія, калі ачуняла, паведамілі медыкі.

«Затрыманы, дырэктар аднаго са сталічных ЗАТ, ужо даў паказанні следчым. Праведзены яго медыцынскі агляд, які паказаў адсутнасць стану наркатычнага альбо алкагольнага ап'янення. Дадатковая чакаюцца вынікі хімічнага даследавання крыві, — паведаміла прадстаўнік Следчага камітэта Юлія Ганчарова. — З-за адсутнасці дакладна выражанага матыву ў дзеяннях падазраванага, а таксама атрыманай інфармацыі пра дзівацтвы ў паводзінах напярэдадні трагедыі, следствам прызначана стацыянарная комплексная псіхолага-псіхіятрычная экспертыза падазраванага».


Каб дастаць кіроўцу «Аўдзі-100», давялося зразаць дах.


Андрэй і Юлія былі шчаслівай парай.

**Не стала сям'і**

У аварыі на вуліцы Гая не стала таго, хто сам бачыў усякае. На старэнькай «Аўдзі-100» ехаў 42-гадовы кіроўца «хуткай дапамогі» Андрэй з жонкай Юліяй. На заднім сядзенні ў іх сядзеў сабака. Яны кіраваліся за горад. Усе загінулі.

Андрэй летась заняў першае месца ў конкурсе прафесійнага майстэрства сярод кіроўцаў «хуткіх». У іх застаўся сын.

### Можна было папярэдзіць?

Калі пачалі разбірацца ў прычынах трагедыі, высветлілася, што ў сям'і былі праблемы.

Яшчэ 6 лістапада Эдуард учыніў выхадку, якую тады ўдалося ўлагодзіць. Ён прыйшоў у дзіцячы садок з нажом.

«У раздзявалцы была я, яшчэ адна мама, двое дзяцей, бацькі Стэфана і яго старэйшая сястра. Тата хлопчыка трымаў у руках скручаны пакет, пачаў яго раскручваць. Першая думка: «Напэўна, цукеркі хоча дзецям даць». Аднак мужчына з пакета дастаў нож... Я схапіла сваё дзіця, прыхінула да сябе, мы ў шоку... Старэйшая дзяўчынка іх адразу заплакала, жонка пачала крычаць: «Эдзік, што ты робіш?!», але мы ўжо схапілі дзяцей і кінуліся ў групу. У дзвярах сутыкнуліся з выхавацелькай. Мы толькі паспелі сказаць, што ў таты Стэфана нож, як ён ужо быў каля яе. Чутно было, як ён ёй два разы агрэсіўна сказаў: «Не глядзі мне ў вочы, не смей глядзець мне ў вочы!» Выхавацелька таксама забегла ў групу, мы ўтрох трымалі дзверы — замка там няма — і тэлефанавалі ў міліцыю», — расказала парталу Tut.by маці дзіцяці, якое ходзіць у садок разам з сынам затрыманага Эдуарда.

Праўда, да прыезду нарада міліцыі мужчына разам з сям'ёй паспеў сысці. Але нарад у катэдж адправілі. А там міліцыянтаў унутр не пусцілі. Яны і паехалі. Падстаў для затрымання мужчыны 6 лістапада міліцыя не ўбачыла. Згодна з крымінальна-працэсуальным кодэксам, затрымаць можна чалавека, якога падазраюць у злачынстве, альбо калі асоба, якая ад яго пацярпела, пакажа на яго. Эдуард жа ні на каго не нападаў і нікому не пагражаў.

**Кастусь Матушыч**

## Маці расстралянага Аляксандра Грунова: «Жывёлы, каб іх сіфіліс зжэр...»

Які дзень Вольга Грунова, маці асуджанага да смяротнага пакарання Аляксандра Грунова, не знаходзіць сабе месца. Напярэдадні жанчына атрымала на пошце кардонныя скрынкі з адзеннем сына, у якім ён знаходзіўся ў камеры смяротнікаў у мінскай турме па вуліцы Валадарскага.

13 кастрычніка Вольга Грунова была на спатканні ў турме, а 29 кастрычніка нехта Пятровіч В.У. даслаў ёй у Гомель з мінскага паштовага аддзялення №115 тры кардонныя скрынкі. Адрас адпраўніка не пазначаны, напісана толькі: «Да запатрабавання».

У скрынках, акрамя звычайнага адзення, ляжала і турэмная роба з намаляваным белым колам, пасярэдзіне якога — літары «ИМН». Усё гэта і паказвае з плачам Вольга Грунова, якую раз-пораз перабівае не зусім цвярозая сяброўка Валянціна.

Валянціна: «Няправільна! Твой ліст да яго не дайшоў. Сакратару дайшоў, дык сакратара трэба караць, а не Лукашэнку». Грунова: «Ён памілавання не зрабіў. Не зрабіў. Усё. Ад яго ўсё залежала». Маці выцягвае з кучы адзення турэмную робу сына і цяпер ужо жорстка лае тых, хто даслаў ёй вопратку: «Яны, жывёлы, сунулі тое, у чым ён знаходзіўся там, і мне кінулі. Яно мне наогул не трэба. Я яму не дасылала такога. Ён хадзіў у мяне ў найлепшым. Гэта не яго, гэта іх. Жывёлы, каб іх сіфіліс зжэр... Вось, можаце сфатаграфаваць».

На думку праваабаронцаў, сам факт, што маці атрымала асабістыя рэчы сына, хутчэй за ўсё азначае, што Аляксандра Грунова ўжо расстралялі — у перыяд паміж 13 і 29 кастрычніка. Такая практыка склалася ў сістэме выканання пакаранняў Беларусі: рэчы асуджанага адсылаюць родным пасля таго, як прысуд выкананы.

Афіцыйнага паведамлення пра смяротнае пакаранне сына Вольга Грунова пакуль не атрымала. Не выдаюць у Беларусі родным і блізкім і цела расстралянага, а месца яго пахавання трымаецца ў сакрэце.

Пакуль Аляксандр Груноў знаходзіўся ў турме, гомельскі праваабаронца Леанід Судаленка, які, як і многія іншыя актывісты, выступае за мараторый на смяротнае пакаранне, накіраваў па даверанасці Грунова ў Камітэт ААН па правах чалавека яго індывідуальную скаргу — на шматлікія парушэнні падчас правядзення следства па справе забойства студэнткі Наталлі Емяльянчыкавай.

«Камітэт ААН зарэгістраваў гэтую скаргу і ў той жа дзень накіраваў ураду Беларусі просьбу не выконваць смяротны прысуд да таго часу, пакуль скарга не будзе разгледжаная. На жаль, мы бачым, што ўрад зноў праігнараваў свае міжнародныя абавязацельствы», — адзначыў Леанід Судаленка.

Нагадаем, Гомельскі абласны суд двойчы выносіў прысуд аб найвышэйшай меры пакарання ў дачыненні да Аляксандра Грунова за асабліва жорсткае забойства студэнткі Наталлі Емяльянчыкавай. Сваёй ахвяры забойца нанёс больш за сотню нажавых раненняў. Першы прысуд Грунову быў адменены Вярхоўным судом з прычыны працэдурных парушэнняў.




**Алена Германовіч, naviny.by**

**Ад рэдактара.** Маці ёсць маці. Але ахвяру Грунова хто падніме з магілы?

# Прагрэс усіх накорміць

Пакуль мінскі Парк высокіх тэхналогій змагаецца за месца пад сонцам на сусветным рынку, яго землякі знаходзяць свой цымус ад датычнасці да ІТ-прагрэсу, што крочыць недзе побач. Добра ўмазаць маніторам аб зямлю, потым яшчэ раз, крыху высілкаў — і ты маеш жменьку дратоў з каляровым металам.

А калі гэта аднесці да людзей, што дадуць крыху грошыкаў, то і дзень прайшоў недарма.

**Фота Сяргея Зініна**





**Фотафакт**



КІРЫЛА ХІЛЬКО.

**Вусаты хлеб? Гэткі каравай можна было бачыць на выставе «Прадэкспа-2014» у Мінску.**

**Мова наша**

## Тыповая мінская сцэнка: «Какой красівый у вас язык»

7 лістапада 2014 г., гарадскі аўтобус. Едзе прыкладна 16-гадовы унук з бабуляй. Мінчукі. Унук гаворыць выключна па-беларуску. Молада. Натуральна. Проста пра жыццё. Бабуля натуральна слухае, адказвае выключна па-руску. Нішто не замінае іх кантактаванню.

Устае жанчына і кажа бабулі: «Какой красівый у вас внук. Я і не знала, что белорусскій язык такой красівый. І внук красівый, і язык красівый».

Бабуля здзіўлена трохі. Кажа ўнуку: «Тебя красівым назвалі. Хвалят тебя». Я тым часам збіраюся выходзіць.

Тая жанчына і да мяне кажа: «Какой красівый беларускій язык! Слушала — наслаждалась. Почему не говорім?»

Жанчыне гадоў 60.

**Інэса Кур'ян, Facebook.com**

**І што вы думаеце?**

## Клуб Dozari зрэагаваў на крытыку




Гламурны мінскі клуб «Дазары» моцна білі ў інтэрнэце за два мерапрыемствы — «Рускім быць модна» і «Руская ноч», якія прайшлі ў пачатку лістапада ў клубе. Тады на афішах былі намаляваныя Пуцін, аўтамат Калашнікава і матрошкі.

Не прайшло і пары дзён, як 8 лістапада ў клубе правялі «грандыёзнае нацыянальнае шоу Welcome to Belarus».

Тут і канкурэнты падцягнуліся. Іншы тусовы мінскі клуб 28 лістапада ладзіць вечарынку «Беларусам быць модна».

**Рэдакцыя рэкамендуе**

## Выпрабавана на сабе

Як знайсці «беларускамоўнае каханне» за пяць хвілін

**Чытайце на nn.by**

# Трагедыя Украіны хай стане беларусам навукай

Піша наш чытач **Дзяніс Рабянок** з Калінкавіч (Гомельская вобласць).

Усе мы назіраем трагедыю ў суседняй Украіне. Сотні тысяч людзей трапілі ў страшную пастку, апынуўшыся пад уладай сапраўдных бандытаў. Выкраданні людзей, рабункі крамаў, інкасатарскіх машын, аўтасалонаў і проста прыватных дамоў — гэта стала будзённасцю ў тых гарадах, дзе гаспадараць сепаратысты — прыхільнікі развалу Украіны.

Паралізавана дзейнасць дзяржаўных структур, перасталі пенсіі выплачваць. Вось так самаабвешчаныя «народныя губернатары» разам з падпарадкаванымі ім бандамі ўсталёўваюць панаванне так званай «Новаросіі», куды па словах Пуціна яшчэ павінны ўвайсці Харкаўская, Запарожская, Мікалаеўская, Днепрапятроўская, Адэская і Херсонская вобласці сучаснай Украіны.

Таму цалкам заканамерна, што ўкраінскія ўлады пачалі антытэрарыстычную аперацыю, каб узнавіць вяршэнства Закона.

У свой час Чачэнская Рэспубліка выказала жаданне стаць самастойнай дзяржавай, выйсці са складу Расіі. Што, дазволілі ёй гэта зрабіць? Дазволілі зладзіць рэферэндум? Хоць на чале ў чачэнскага руху стаяў адукаваны і выхаваны чалавек — генерал Савецкай Арміі, камандзір авіядывізіі. Што, нельга было з ім дамовіцца, наладзіць дыялог?

Расія адказала бамбёжкамі. У выніку горад Грозны быў свядома ператвораны ў руіны.

Чаму ж у Чачні, па версіі расійскіх улад, «тэрарысты», а ў Данецку «апалчэнцы»? Чаму тады сумнавядомы Дзмітрый Кісялёў не ўсчыняў лямант і не крычаў пра «злачынствы супраць народа»? Чаму маўчалі ўсе сённяшнія прыхільнікі Пуціна з ліку творчай інтэлігенцыі, якія на камеру абураюцца «кіеўскай хунтай»?

### Гебельс адпачывае

Любы чалавек, які здольны крытычна аналізаваць інфармацыю, разумее, што забурэнні ва Украіне — гэта маштабная спецаперацыя расійскіх спецслужбаў.

Расійскія СМІ ў адзін голас гавораць, што жыхары ўсходу Украіны «масава выступілі» супраць «фашысцка-бандэраўскай хунты», каб абараніць сваю нацыянальную і культурную самабытнасць. Маўляў, ва Украіне будзе забаронена «размаўляць на рускай мове», што «бандэраўцы будуць высылаць рускамоўных на прымусовыя працы» і г.д. Каб зразумець усю дзікасць і нахабства гэтай хлусні, жыхару Гомельшчыны, напрыклад, дастаткова з'ездзіць на пару дзён у суседнюю Чарнігаўшчыну.

Няікіх праблем з рускай мовай там няма. Рускамоўныя ўкраінцы, пачуўшы такое пытанне, абураюцца тым, як расійскія СМІ свядома распальваюць варожасць. Многія ўкраінцы, якія ўжываюць рускую мову дома і ў штодзённым жыцці, з гонарам называюць сябе патрыётамі Украіны і кажуць пра тое, што жадаюць, каб іх дзеці свабодна валодалі і размаўлялі на ўкраінскай мове!

Адзіным доказам «генацыду рускамоўных» з'яўляецца спроба некаторых дэпутатаў Вярхоўнай Рады Украіны ў першыя дні пасля перамогі Майдану адмяніць прыняты Януковічам у 2010 г. закон «Аб рэгіянальных мовах». Але ж гэтая спроба была няўдалай і скончылася тым, што праект быў адхілены на той момант часовым выканаўцам абавязкаў прэзідэнта Аляксандрам Турчынавым. Але нават калі б прапанова і прайшла, то ў дзеянне аўтаматычна ўступіў бы закон «Аб мовах» яшчэ савецкага часу, зацверджаны напрыканцы 1980-х гадоў і які гарантаваў рускай мове і яе носьбітам самыя шырокія правы. Тым больш, што закон «Аб рэгіянальных мовах» узору 2010 года быў прыняты Януковічам пад ціскам Масквы і быў скіраваны, перш за ўсё, не на абарону рускай мовы (яе проста не было ад чаго і ад каго абараняць), а на звужэнне выкарыстання нацыянальнай украінскай мовы. Да чаго гэта можа прывесці, мы ўсе бачым на прыкладзе Беларусі, дзе беларуская мова фактычна вынішчаецца на дзяржаўным узроўні.

### Галоўны злачынца — Януковіч

Усход Украіны — гэта заўсёды, пачынаючы яшчэ ад часоў прэзідэнта Леаніда Кучмы, была вотчына Віктара Януковіча, бо ён шмат гадоў працаваў на пасадзе кіраўніка Данецкай абласной адміністрацыі. Менавіта Януковіч разам з атачэннем зрабіў усё, каб ператварыць Данецкі рэгіён у тэрыторыю, дзе не дзейнічае Закон, а валадараць міліцэйска-крымінальныя групоўкі, якія настолькі зрасліся, што, часам, было складана адрозніць крымінальнікаў ад праваахоўнікаў.

Менавіта Януковіч пачаў і развіў да агромністых маштабаў незаконную здабычу вугалю на шахтах, якія па розных прычынах (у асноўным з-за аварыйнага стану) былі выведзеныя з эксплуатацыі. Гэта прыводзіла да масавай гібелі «саматужных» шахцёраў, і, каб схаваць сапраўдную прычыну іх смерці, целы вывозілі на дарогі і імітавалі наезды.

Калі ж адбыўся кар'ерны ўзлёт і Януковіч стаў спачатку кіраўніком украінскага ўрада, а потым і прэзідэнтам (нагадаю, што на выбарах 2004 г. на Януковіча працаваў цэлы штаб крамлёўскіх кансультантаў), ён распаўсюдзіў свае бандыцкія правілы ўжо на ўсю Украіну. Пашырыў свае паўнамоцтвы, паставіў пад свой кантроль суд і пракуратуру. Усё гэта рабілася пад прывабнымі лозунгамі, галоўным з якіх быў: «Жыць як у Еўропе ўжо сёння». Менавіта папулізм і прыгожыя абяцанні дазволілі гэтаму бандыту адурманіць людзей і прыйсці да ўлады. Але жыццё ўкраінцаў ад пачатку прэзідэнцкіх паўнамоцтваў Януковіча толькі пагаршалася. Расквітнела карупцыя, а крадзеж бюджэтных сродкаў стаў адкрытым.

Усе галоўныя пасады ў краіне занялі ўраджэнцы Данбаса! Прэм'ер, старшыня Вярхоўнай Рады, старшыня Нацбанка, старшыня Канстытуцыйнага суда, кіраўнік СБУ, міністр унутраных спраў... Усе да адной!

У абарот увайшоў тэрмін «сям'я» Януковіча (на аналогіі з «сям'ёй» Ельцына). Напрыклад, у аднаго з сыноў Януковіча, які да абрання бацькі быў сціплым стаматолагам, нечакана прачнуліся «таленты» геніяльнага бізнэсмена. І ён за вельмі кароткі прамежак часу стаў уладальнікам багацця памерам 500 мільёнаў даляраў!

Сёння ж і палітычнае кіраўніцтва Расіі на чале з Пуціным і Мядзведзевым, і падкантрольныя Крамлю СМІ нічога пра злачынствы Януковіча не кажуць. Больш за тое, яны далі яму прытулак і, як выглядае, дазволілі легалізаваць накрадзеныя грошы. І пры гэтым працягваюць гаварыць пра «барацьбу з карупцыяй», «галечу ва Украіне», «клопат пра просты народ» і г.д. Дык дапамажыце вярнуць скрадзеныя ў народа Украіны грошы, як зрабілі гэта ўлады Еўрапейскага Саюза, Швейцарыі і ЗША, арыштаваўшы рахункі Януковіча і яго «сям'і»! Але ж не дапамагаюць. Наадварот — робяць усё, каб ва Украіне працягвалася бойня.

Расія, выкарыстоўваючы людзей Януковіча, канчаткова зрабіла стаўку на далейшую эскалацыю гвалту і беззаконня на ўсходзе Украіны. Не маючы надзей на падтрымку ідэй так званай «Новаросіі» і развалу Украіны сярод мясцовага насельніцтва, Расія працягвае перапраўляць ва Украіну сваіх дыверсантаў (ваеннаслужачых спецвойскаў), якія ажыццяўляюць аператыўнае кіраванне групоўкамі сепаратыстаў. Пры гэтым ва Украіну перапраўляецца самае сучаснае расійскае ўзбраенне: аж да зенітна-ракетных комплексаў, для выкарыстання якіх патрэбныя спецыянальная падрыхтоўка і адпаведны вопыт. І ніхто мяне не пераканае, што ўкраінскія самалёты збівалі «мірныя людзі», якія, згодна з рэпартажамі расійскіх СМІ, «яшчэ ўчора стаялі за станком».

### Вылюдкі

Нельга не сказаць і пра тую нягодніцкую кампанію дыскрэдытацыі патрыётаў Украіны, якая вось ужо 5-ты месяц вядзецца расійскай інфармацыйна-прапагандысцкай махінай 24 гадзіны ў суткі. У ход ідзе ўсё — ад адкрытых падтасовак фактаў да тэлемантажу. Яны распісваюць «зверствы бандэраўцаў», але ці ўспомняць калі ахвяраў Сталіна, ахвяраў Галадамору, ахвяраў уласаўцаў? Усе апошнія падзеі вакол Украіны паказваюць, што гэта можа чакаць у будучым і беларусаў, калі мы дазволім сабой маніпуляваць.

# У БАТЭ ўсё робіцца правільна, па-еўрапейску

**9 лістапада барысаўскі БАТЭ дома разграміў «Нафтан» з лікам 4:0 і дзявяты раз запар стаў чэмпіёнам краіны па футболе.**

Увогуле, гэта ўжо 11-е чэмпіёнства барысаўскага клуба. «Наша Ніва» высветліла, што думаюць вядомыя прадстаўнікі футбольнай грамадскасці наконт такой гегемоніі БАТЭ.


АЛЯКСАНДР КАКШЫНСКІ, FCBATE.BY

### «Больш перажываў за «Дынама»

Мікіта Букаткін, футбаліст бабруйскай «Белшыны»



«Не сказаць, што я вельмі рады за БАТЭ. Не сказаў бы, што сёлета было такое вельмі заслужанае чэмпіёнства. Шчыра кажучы, у гэтым годзе больш перажываў за «Дынама», хацеў, каб яны выйгралі чэмпіянат. У іх была добрая каманда. Летам яны здорава глядзеліся. І калі б траўмы не падкасілі гульцоў, то «Дынама» стала б чэмпіёнам. Не ведаю, ці будуць у кагосьці магчымасці звергнуць БАТЭ ў будучыні. Адбылася б пэўная перазагрузка. І БАТЭ хацелася б зноў вярнуць сабе тытул, а іншай камандзе — наадварот, яго абараніць. Раней БАТЭ быў неяк мацнейшы. У гэтым жа годзе яны ўжо не былі на галаву мацнейшымі за сваіх праціўнікаў».

### «У БАТЭ пабудавана сістэма»

Мікалай Рындзюк, футбаліст «Смаргоні»



«Вельмі рады за БАТЭ. Глядзеў гульню, пасля яе адправіў эсэмэскі з віншаваннямі трэнерскаму штабу, Капскаму. Рады за ўсіх. Анатоль Капскі пабудаваў сістэму, клуб, і я сам стаяў каля вытокаў гэтага, ад самай другой лігі, калі ўзялі толькі маладых хлопцаў са «Змены». Прыйшоў трэнер — Юрый Іосіфавіч Пунтус. Я шмат там пагуляў, вярнуўся некалькі разоў. Не бачу прычын сумнявацца ў чэмпіёнстве БАТЭ. Ну а гегемонія... У іншых краінах таксама падобныя сітуацыі ёсць: «Базэль» — у Швейцарыі, «Дынама» (Заграб) — у Харватыі. У БАТЭ ўся сістэма наладжана, усё працуе, клуб самаакупальны».

### «У беларускім футболе поўная...»

Вячаслаў Глеб, футбаліст жодзінскага «Тарпеда-БелАЗ»



«Сярод усяго нашага беларускага футбола з'явіўся адзін чалавек — Анатоль Капскі, які паказаў, як і што трэба рабіць. Але чамусьці ўсе астатнія не прыслухоўваюцца ці не хочуць выбіраць такую ж лінію, якую прапанаваў Анатоль Анатолевіч. Думаю, што ў будучыні барысаўскую каманду могуць пазбавіць чэмпіёнскага тытула. Нават у гэтым годзе БАТЭ было цяжка, як ніколі. Магчыма, сказалася ментальнасць, псіхалогія БАТЭ: у самы адказны момант яны сабраліся, абыгралі «Дынама». Але, думаю, у наступным сезоне «Дынама» будзе рабіць яшчэ больш, каб стаць чэмпіёнам. Што ж да астатніх клубаў, вы ведаеце сітуацыю ў беларускім футболе: гэта поўная... Поўная! Але ж я рады, што БАТЭ гуляе ў Лізе чэмпіёнаў. Бо калі б яны там не гулялі, нават не хочацца казаць, што было б. А ў «Дынама» ўсё нармальна. Ёсць патрон — Юрый Аляксандравіч Чыж. У БАТЭ ўсё пабудавана, усё робіцца правільна, па-еўрапейску, як адна сям'я. У «Дынама» ёсць усё, каб навязаць барацьбу, але, напэўна, не хапае такой сямейнасці».

### «Не вельмі добра, калі адна каманда так доўга дамінуе»

Юрый Пунтус, галоўны трэнер мазырскай «Славіі»



«Рады за БАТЭ. Але гэта не вельмі добра, калі адна каманда так доўга дамінуе. Гэта не плюс нашаму чэмпіянату. Але яны па праве заваёўваюць тытулы. Кажуць: «Капскі ўсё купіў». Але гэта несур'ёзна. Гэта ўсё дурныя размовы. Думаю, што ў будучыні абавязкова хтосьці павінен зрушыць БАТЭ з пазіцыі чэмпіёна. Я думаю, што БАТЭ ў гэтым сезоне стаў крыху слабейшым, але і ўзровень нашага чэмпіянату не падае. А ў наступным сезоне, калі ў вышэйшай лізе будзе 14 каманд, барысаўцам будзе яшчэ складаней».

### «Змена чэмпіёна была б карыснай для беларускага футбола»

Уладзімір Курнеў, трэнер, на дадзены момант у творчым адпачынку



«Мне чаго радавацца? Гэта павінны радавацца гульцы, трэнеры, кіраўніцтва, заўзятары. Калі яны становяцца чэмпіёнамі, значыць, яны наймацнейшыя. У «Дынама», праўда, была магчымасць іх перашкодзіць, але не хапіла сілаў на канцоўку. Будзем спадзявацца, што нешта зменіцца на наступны год. Калі БАТЭ яшчэ ў сярэдзіне другога круга рабілася чэмпіёнам, то было нецікава. Напэўна, змена чэмпіёна была б карыснай для беларускага футбола. Бо трошкі прыелася, калі 8 гадоў запар выйграе адна каманда. Я не думаю, што ўзровень БАТЭ ўпаў — барацьба атрымалася за кошт росту мінскага «Дынама». А барысаўцы трымаюць марку, гуляюць у групе Лігі чэмпіёнаў. Не кожны расійскі клуб з вялікім бюджэтам так часта трапляе ў еўракубкі. Таму БАТЭ — малайцы, трымаюць узровень».

**Апытаў Зміцер Міцкевіч**

# Саступілі Японіі? Не варта рабіць з гэтага трагедыі

У мінулыя выходныя ў Любляне прайшоў хакейны турнір, у якім узялі ўдзел зборныя Беларусі, Славеніі, Японіі і Аўстрыі. Саступіўшы ва ўсіх трох матчах з агульным балансам шайб 4—10, наша зборная заняла апошняе месца, упершыню ў гісторыі саступіўшы нават камандзе Японіі.

Турнір, на якім наша каманда выступала пад кіраўніцтвам новага трэнера Уладзіміра Крыкунова, атрымаў мала ўвагі ад СМІ. Што ж адбылося? «Наша Ніва» запыталася ў кіраўніка хакейнага аддзела «Прэссбола» Вячаслава Федарэнкава, які прысутнічаў на турніры і бачыў усё жыўцом.

«Выступ зборнай не стаў для мяне вельмі вялікім здзіўленнем. Мы і раней не паказвалі высокіх вынікаў на такіх турнірах. Напрыклад, у мінулым сезоне ў Гданьску наша каманда прайграла палякам і італьянцам, толькі венграў перамаглі. Узгадайце таксама Кубак Палесся, дзе мы не паказвалі выдатных вынікаў. Проста тут патрэбна браць пад ўвагу, што каманда камплектавалася ў асноўным хлопцамі з нацыянальнага чэмпіянату. З іх на першынство свету паедзе максімум чалавекі чатыры. Не былі выкліканыя хлопцы з «Дынама», таксама з іншых клубаў КХЛ. Прадстаўнікам «Дынама» было б папросту вельмі далёка дабірацца на турнір — каманда праводзіць выязную серыю на Далёкім Усходзе.

Таксама паглядзіце на склады нашых апанентаў. Таму гэтае спаборніцтва, у першую чаргу, прызначанае для прагляду бліжэйшага рэзерву. Гэтым наш галоўны трэнер і займаўся. І не варта з такога выступу рабіць трагедыю. Зразумела, што ў федэрацыі зрабілі высновы пасля гэтага турніра. Але якімі яны могуць быць? Так, гэтае спаборніцтва паказала наш нізкі ўзровень. Заўважце, я тут не кажу пра ўзровень зборнай. Гэта паказвае менавіта ўзровень нашага нацыянальнага чэмпіянату. І гэтая праблема з'явілася не сёння. Яе ведаюць у федэрацыі. Там будуць над гэтым працаваць. Магчыма, адбудуцца змены ў кірунку інтэрналізацыі нашага чэмпіянату.




Новы кіраўнік федэрацыі Ігар Рачкоўскі сказаў, што не варта пакуль пачынаць нейкія імгенныя рэформы. Ён узяў месяц-два на вывучэнне сітуацыі, яму патрэбна цалкам паглыбіцца ў сваю справу», — адзначыў эксперт.

**ЗМ**

# Спецназ затрымаў «балахоўцаў»

Музыкаў гродзенскага гурту Dzieciuki затрымалі ў Заслаўі, дзе яны здымалі кліп.

Сюжэт быў варты Салтыкова-Шчадрына: міліцыя палічыла здымкі кліпа на песню «Хлопцы-балахоўцы» ў полі несанкцыянаваным шэсцем.

«Песня вымагала адпаведнага антуражу, таму музыкі былі апранутыя ў строі часоў грамадзянскай вайны, у камуністаў, белагвардзейцаў... Некаторыя на конях. Таму акром музыкаў там былі гаспадары гэтых коней, а таксама рэканструктары, гісторыкі, аўтар песень каманды Дзяніс Жыгавец», — расказаў *Tuzin.fm* адзін з удзельнікаў. Былі ў кадры і бел-чырвона-белыя сцягі — якія ж балахоўцы без іх. Гэта, відаць, і перадвызначыла далейшыя падзеі.

Міліцыя прыехала, калі здымкі ўжо завяршыліся і «балахоўцы» селі перакусіць. Удзельнікаў вячэры — музыкаў, гісторыка Ігара Мельнікава, здымачную групу, усяго 18 чалавек — загрузілі ў аўтазак і адвезлі ў Заслаўскае РАУС. Там пратрымалі тры паложаныя гадзіны, дапытаўшы кожнага. Нагода затрымання асабліва здзівіла музыкаў — хто б мог падумаць, што на тое, каб сабрацца ў полі, трэба браць дазвол у выканкаме.

Урэшце ўсіх павыпускалі, а адзняты відэаматэрыял пакінулі для праверкі на дзесяць дзён.

Хочацца спадзявацца на тое, што здаровы сэнс пераможа і матэрыял не палічаць за «бунт» ды вернуць гаспадарам. Пазітыўны момант сітуацыі — дзякуючы затрыманню, «Дзецюкі» так праславіліся ў Заслаўі, што цяпер могуць смела прыязджаць туды з прэзентацыяй свайго альбома «Гарадзенскі гармідар». Але тут ужо дакладна прыйдзецца браць дазвол у выканкаме.

**СМ**



**Кадр са здымкаў кліпа.**



## Дыяна Арбеніна заспявала па-беларуску

Вядомая расійская спявачка беларускага паходжання Дыяна Арбеніна («Начныя снайперы») у нядзелю, 9 лістапада, дала канцэрт у Мінску ў *Prime Hall*. У рэпертуары спявачкі — рэалістычная ў сваім пачатку і містычная пры канцы варыяцыя на беларускую народную песню:

Засіялі зоркі, заспявалі пеўні,
Зашумеў зялёны лес.
Выхадзі ж у поле сеяць зерне —
Што пасееш, то й пажнеш.
Выхадзі ж у поле сеяць зерне —
Што пасееш, то й пажнеш.
Вось яна якая, наша доля,
Выхадзі глядзець яе.
Бачыш, як цвіце яна ў полі,
Чуеш, як яна пяе,
Бачыш, як цвіце яна ў полі,
Чуеш, як яна пяе.

## Хадановіч запісаў «Разбуры турмы муры»

Паэт Андрэй Хадановіч упершыню праспяваў беларускую версію «Муроў» на марознай Плошчы-2010. Гэта пераклад аднаго з хітоў часоў польскай «Салідарнасці» ў выкананні Яцка Качмарскага.

У сваю чаргу, песня Качмарскага была пераспевам песні на каталонскай мове Люіса Льяка, гімну змагання з дыктатурай Франка.

Беларускі перакладчык і выканаўца гэтай песні мяркуе, што яна пасуе і да іншай гістарычнай падзеі — падзення Берлінскай сцяны. 9 лістапада споўнілася 25 гадоў з таго дня, як тая сцяна ўпала. «Мяркую, што з гэтым фактам варта павіншаваць усіх беларусаў», — зазначыў Андрэй.

Андрэй Хадановіч запісаў цэлы дыск на ўласныя пераклады Яцка Качмарскага, якія нядаўна выйшаў у Польшчы. Яго прэзэнтацыя адбудзецца 12 лістапада ў мінскай кнігарні «логвінаЎ».

**СГ; інф. tuzin.fm**



Андрэй Хадановіч

## Муры

Ён быў натхнёны і малады,
Іх незлічона было.
Ён на плошчы вёў гарады
З песняй, што блізка святло.

Разбуры турмы муры!
Прагнеш свабоды — то бяры!
Мур хутка рухне, рухне, рухне —
І пахавае свет стары!

І запальвалі свечкі яму,
Плыў па-над плошчаю дым.
Ён спяваў: зруйнуем турму!
Яны спявалі за ім:

Разбуры турмы муры!
Прагнеш свабоды — то бяры!
Мур хутка рухне, рухне, рухне —
І пахавае свет стары!

Ведалі словы на памяць — і спеў
Неслі па вуліцах так,
Што кроў кіпела і гнеў кіпеў,
І сэрцы стукалі ў такт.

Разбуры турмы муры!
Прагнеш свабоды — то бяры!
Мур хутка рухне, рухне, рухне —
І пахавае свет стары!

Білі ў сто тысяч далоняў — і рытм
Ворагаў біў напавал.
Ішлі на муры ва ўсім свеце старым…
А ён усё граў і спяваў.

Разбуры турмы муры!
Прагнеш свабоды — то бяры!
Мур хутка рухне, рухне, рухне —
І пахавае свет стары!

Так паўстаў шматтысячны рух,
Воінаў цэлая раць,
Можна помнікі зносіць і брук
На камяні разбіраць.

Разбуры турмы муры!
Прагнеш свабоды — то бяры!
Мур хутка рухне, рухне, рухне —
І пахавае свет стары!

Кожны адчуў — прыйшоў яго час
Сілы аддаць барацьбе:
Хто не з намі — той супраць нас!..
Спявак быў сам па сабе.

Разбуры турмы муры!
Прагнеш свабоды — то бяры!
Мур хутка рухне, рухне, рухне —
І пахавае свет стары!

Глядзеў, як шчыльныя рады
З ягонай песняю ідуць,
А песня глухне, глухне, глухне…
А муры растуць, растуць…

Разбуры турмы муры!
Прагнеш свабоды — то бяры!
Мур хутка рухне, рухне, рухне —
І пахавае свет стары!



## Узоры вышыванак — тут

Перавыдалі альбом Раманюка «Беларускія народныя строі».

Другое выданне арт-бука паводле даследаванняў вядомага мастацтвазнаўцы і этнографа Міхася Раманюка з'явілася ў сталічных крамах. Перавыданне кнігі зладзіў сын вучонага, пісьменнік, фатограф, дызайнер і выдавец Дзяніс Раманюк.

Першае выданне кнігі — ці, дакладней, мастацкага альбома — з'явілася яшчэ ў 2003 годзе. Альбом атрымаў шэраг прызоў на міжнародных конкурсах і імгненна раскупіўся.

У 70—90-я гады мінулага стагоддзя Міхась Раманюк шмат ездзіў па Беларусі, збіраючы інфармацыю аб нашым нацыянальным адзенні. Ён рабіў фота, запісваў і замалёўваў узоры. «У 1981 годзе ў бацькі выйшаў вялікі альбом «Беларускае народнае адзенне». Ніхто — ні прыбалты, ні украінцы, ні рускія — на той час падобнага выдання не мелі. Яно стала бібліяграфічнай рэдкасцю яшчэ ў савецкі час, — распавядае Дзяніс Міхайлавіч. — Мой бацька першым падзяліў раёны па арнаментах, па тым, што, дзе і як насілі, абгрунтаваў усе гэта навукова. Цяпер вось у трэндзе вышыванкі. Дык трэба адзначыць, што практычна ўсе ўзоры бяруцца з кніг Міхася Раманюка».

Новы тыраж немалы — 3000 асобнікаў. Дзяніс Міхайлавіч спадзяецца, што зараз ужо кнігу змогуць набыць усе, хто жадае. Складаецца яна з 80 старонак, 62 з іх — якасныя ілюстрацыі. Кошт для мастацкага выдання прымальны: у футарале «Беларускія народныя строі» будуць каштаваць каля 200 тысяч рублёў, без яго — 130 тысяч.

**Улад Швядовіч**

**Верш**

Стась Карпаў



## Пах тугі

Галасы ў галаве шэпчуць, просяць. Нацягваюць павадок.
Угаворваюць не ісці далей. Хорам. Хорам.
Божа. Гэты пад'езд пахне, як мой дзіцячы садок,
Кухняй, анучкамі, гнілой капустай і хлорам.
Ах, як ахвотна яны выпаўзаюць з глыбінь.
Што ж. Па праўдзе сказаць — інакш і быць не магло бы.
Вось наш клас. Тэлевізар у цэнтры. Тыпу «Рубін».
Нас пасадзілі вакол. Мы слухаем голас Глобы
З глыбіні дынаміка, нібы з вяршыні крыжа.
Па камандзе ўдых. Пасля выдыхаем самі.
Няня рэзаніруе. Губы яе дрыжаць.
Вочы прыкрыты сальнымі валасамі.
Голас шэпча і просіць. Я памятаю: невыразны й вадкі.
Без пачатку і краю. Спі. Стамлёны і сонны.
Словы зніклі. Галасы нацягваюць павадкі.
Я іх чую. І веру ім. Асабліва сёння.
Я думаю пра свой дзень. Дзень не мінае ніяк.
Хаця і прайшоў з небывалым плёнам.
Я скачаў з дывановай шэрсці вялікі такі камяк,
Даведаўся, што жаўток у яйку бывае цёмна-зялёным.
Жаўток. Такая сытасць любой у свеце сыцей,
Запаўняе ўсяго знутры і застрае ў горле:
Я ўсё яшчэ баюся выхавацельніцу, няню. І ненавіджу дзяцей.
Дні, тыдні, гады — вы чуеце? Яны нічога не сцёрлі.

**Стась Карпаў**

Паэт. Працуе ў IT. Жыве ў Мінску.

**Сцісла**

### Працягваецца прыём твораў на Прэмію імя Аляхновіча

Прэмія імя Францішка Аляхновіча ўручаецца за найлепшы твор, напісаны ў зняволенні. Тэматыка твораў, што могуць прэтэндаваць на прэмію, ніякімі патрабаваннямі не абмежаваная. На разгляд прымаюцца дакументальныя і мастацкія творы на беларускай і рускай мовах, як апублікаваныя, гэтак і ў рукапісах, створаныя ў зняволенні і дасланыя на працягу года. Журы вызначае пераможцу і абвяшчае вынікі 10 снежня, у Міжнародны дзень правоў чалавека. Дасылаць творы трэба на адрас info@pen-centre.by і svaboda@rferl.org да 1 снежня 2014 года.

### Шляхам паўстанцаў

Да 150-годдзя Паўстання 1863—1864 гадоў рэжысёр Павел Доўнар падрыхтаваў дакументальную стужку «Шляхам паўстанцаў». Фільм уздымае і нечаканыя пытанні. Напрыклад, якім чынам Паўстанне паўплывала на грамадзянскую вайну ў ЗША.

**СМ**

## ФУТБОЛ

### Беларусь — Мексіка




**18 лістапада на «Барысаў-Арэне»** адбудзецца таварыскі матч паміж нацыянальнымі зборнымі Беларусі і Мексікі. Пачатак а 20. Білеты — 45—135 тысяч рублёў.

## ГАНДБОЛ

**15 лістапада ў Брэсце ў спарткомплексе «Вікторыя»** мясцовы гандбольны клуб імя Мяшкова прымае харвацкі «Заграб». Пачатак а 18. Матч пройдзе ў рамках SEHA-лігі.

## КАНЦЭРТЫ

### «Мутнаевока»

**13 лістапада ў TNT Rock Club (Рэвалюцыйная, 9)** — авангардны акустычны канцэрт гурту «Мутнаевока». Пачатак а 19.

### Макс Корж

**15 лістапада Макс Корж у Палацы спорту (пр-т Пераможцаў, 4)** прэзентуе свой новы альбом «Хатні». Пачатак а 19.

### Ніно Катамадзэ

**20 лістапада а 19 у Палацы Рэспублікі (пл. Кастрычніцкая, 1)** выступіць Ніно Катамадзэ.

### The Toobes і Akute

**20 лістапада ў клубе Prime Hall (пр-т Пераможцаў, 65)** выступяць найлепшыя live-каманды Беларусі: The Toobes і Akute.

## ІМПРЭЗЫ

### Лекцыя Дароты Міхалюк «Чатыры ўрады БНР у 1918—1920»

**Лекцыя пройдзе 13 лістапада ў 18.30 у галерэі «Ў» (пр-т Незалежнасці, 37А).** Дарота Міхалюк — доктар габілітаваны Універсітэта Мікалая Каперніка ў Торуні, рэдактар часопіса «Białoruskie Zeszyty Historyczne», аўтар кнігі «Беларуская Народная Рэспубліка 1918–1920. Ля вытокаў беларускай дзяржаўнасці».

### Жоўты дом

**Дабрачынны канцэрт-акцыя** пройдзе 15 лістапада ў падтрымку людзей з псіхічным захворваннямі. Удзельнікі: Фёдар Жывалеўскі, «Нагуаль», Vuraj, «Сон-трава», Сяргей Башлыкевіч, Lumiere Tales, «ПаЦі», Віктар Лупасін і іншыя. Месца правядзення — Shaka-bar (Скрыганава, 6а). Пачатак а 18.

## ТЭАТР

### 13 лістапада

**Купалаўскі** — Офіс
**Лялек** — Чаму старэюць людзі?..
**Опера** — Травіята
**Юнага гледача** — Тэдзі

### 14 лістапада

**Балет** — Жызэль, або Вілісы
**Беларускай драматургіі** — Купала. Кругі раю
**Купалаўскі** — Лістапад. Андэрсен
**Лялек** — Тарцюф
**Юнага гледача** — Тэдзі

### 15 лістапада

**Беларускай драматургіі** — Два чароўныя парасоны
**Купалаўскі** — Ноч на Каляды
**Лялек** — Марозка
**Опера** — Кармен
**Юнага гледача** — Царэўна-жабка, Шытая лялька Рэгедзі Эн

### 16 лістапада

**Балет** — Бахчысарайскі фантан
**Беларускай драматургіі** — Гісторыя двух сабакаў, Нязваны госць
**Купалаўскі** — Ноч на Каляды
**Лялек** — Кот у ботах
**Юнага гледача** — Прыгоды Бібігона

### 17 лістапада

**Беларускай драматургіі** — Калі заўтра няма

### 18 лістапада

**Беларускай драматургіі** — Містар Розыгрыш
**Купалаўскі** — Вячэра з прыдуркам, Самотны захад
**Лялек** — Малы і Карлсан, які жыве на даху
**Опера** — Аіда
**Юнага гледача** — Сіні аўтамабіль

### 19 лістапада

**Балет** — Бахчысарайскі фантан
**Беларускай драматургіі** — Фінт-Круазэ
**Купалаўскі** — Дон Жуан
**Лялек** — Малы і Карлсан, які жыве на даху
**Юнага глудача** — Мой бедны Марат

### 20 лістапада

**Беларускай драматургіі** — Кантракт
**Купалаўскі** — Дон Жуан
**Лялек** — Малы і Карлсан, які жыве на даху
**Юнага гледача** — Ліса і вінаград

## ВЫСТАВЫ

### Сума Сумарум

**Ад 13 лістапада да 13 снежня 2014 года ў Мінску** пройдзе выстава і міжнародны форум беларускіх мастакоў «Сума Сумарум». Гэта першы праект легендарнай галерэі «Шостая лінія» пасля паўзы ў 16 гадоў. «Шостая лінія» — адна з першых і найбольш папулярных у Беларусі некамерцыйных галерэй сучаснага мастацтва, якая праіснавала ў Мінску з 1992 па 1998 год. За шэсць гадоў больш чым 60 мастакоў з Беларусі, Германіі, Польшчы і ЗША правялі ў галерэі 50 выставаў, мастацкіх акцый і перформансаў, якія нязменна прыцягвалі вялікую цікавасць гледачоў і СМІ.

## КІНО

### У пошуках новага дома

Інтэрстэлар
**Жанр:** фантастыка, прыгоды, драма
**Рэжысёр:** Крыстафер Нолан
**У ролях:** Мэцью Маконахі, Эн Хэтэўэй, Джэсіка Чэстайн, Майкл Кейн, Уэс Бентлі, Макензі Фой, Эліес Габел, Кейсі Афлек, Тофер Грэйс, Мэт Дэйман
ЗША, Вялікабрытанія, 169 хв.

Недалёкая будучыня. Былы пілот NASA Купер асеў на роднай ферме і займаецца вырошчваннем кукурузы, бо на Зямлі пануюць пылавыя буры, існуе пагроза голаду. Чалавецтва перастала займацца даследаваннем космасу і клапоціцца толькі пра сваё выжыванне. NASA працуе падпольна, прафесар Бранд верыць, што ратунак можна знайсці толькі на іншых планетах. Куперу прапануюць пілатаваць касмічны карабель, які кіруецца скрозь кратавіну, што з'явілася недалёка ад Сатурна, услед за мужнымі навукоўцамі. Яны ў адзіноце выправіліся ў далёкі космас, каб знайсці некалькі планет, прыдатных для перасялення. Купер з камандай павінен знайсці найлепшы варыянт, каб выратаваць сваіх дзяцей і ўсё чалавецтва.

Новы фільм Крыстафера Нолана (трылогія пра Бэтмена (2005, 2008, 2012), «Пачатак» (2010)) прысвечаны папулярным цяпер тэмам: падарожжам праз прастору і час з дапамогай кратавін, феномену чорных дзірак і выжыванню чалавецтва ў экстрэмальных абставінах. Калі стыхійныя навалы — рэч хоць і страшная, але знаёмая, то прымяненне адкрыццяў квантавай фізікі ў далёкім космасе — пытанне пакуль тэарэтычнае. Аўтар фабулы фільма — фізік-тэарэтык Кіп Торн, яго намаганнямі стужка набывае навуковую дакладнасць: працэс візуалізацыі чорнай дзіркі нават падштурхнуў навукоўца да новых ідэяў. У моцным, захапляльным сюжэце хапае і асабістай чалавечай драмы: кожны з герояў мае сваю гісторыю, свае матывы і памкненні.

Працягласць фільма цалкам абгрунтаваная — сумна не будзе.

**Настасся Уласава**








### Мінск—Вільня: мастацкі маршрут Адама Глобуса

Намаляваныя вядомым менскім мастаком і літаратарам Адамам Глобусам гарадскія пейзажы Мінска і Вільні паказаны на фоне рэальных гарадскіх пейзажаў, бачных праз гіганцкія вокны новай галерэі TUT.BY (пр-т Дзяржынскага, 57). Мінск і Вільня, улюбёныя гарады аўтара выставы Адама Глобуса, паказаныя ў адной маляўніча-графічнай манеры.

# Як Калінінград мог стаць беларускім

На штогадовай прэс-канферэнцыі для рэгіянальных расійскіх СМІ ў Мінску Аляксандр Лукашэнка заявіў, што «Калінінград, падабаецца гэта расійскаму кіраўніцтву ці не, — зона адказнасці Беларусі», маўляў, «у савецкія часы Калінінградскую вобласць хацелі далучыць да Беларусі, і ўжо былі напрацаваныя каласальныя сувязі», ну а ён гэтыя сувязі падтрымлівае і развівае. Выказванні кіраўніка дзяржавы выклікалі шырокі рэзананс.

Гісторыю з Калінінградам лепш пачаць з іншай, менш вясёлай гісторыі — спробы перадачы Полацка і Полацкай вобласці РСФСР, як задумалі Малянкоў і Хрушчоў у 1944 годзе. На спецыяльнай нарадзе па гэтым пытанні Панцеляймон Панамарэнка, які на той момант узначальваў Савет народных камісараў БССР, давёў Сталіну нелагічнасць такіх прапановаў. Яго довады на карысць захавання горада ў складзе БССР былі адпаведныя часу: спрадвечна беларускі горад Полацк, які заўжды быў у складзе БССР і з'яўляўся радзімай беларускага першадрукара Францыска Скарыны, нельга проста так узяць і адарваць ад Беларусі, якая і без гэтага моцна пацярпела ў вайну і страціла частку тэрыторый пасля яе. Да ўсяго, беларусы гэтыя могуць не зразумець і пакрыўдзіцца, а беларусаў крыўдзіць не рэкамендуецца. Народ жа харошы. Сталін пагадзіўся з аргументамі Панцеляймона Кандратавіча, які, на думку некаторых спецыялістаў, быў сталінскім фаварытам і мог нават змяніць бацьку народаў ля стырна першай дзяржавы працоўных і сялян. Упільнаваўшы Полацк у складзе Беларусі, Панамарэнка заняўся іншым горадам.

Адразу пасля вайны адбывалася актыўнае засяленне савецкімі грамадзянамі тэрыторыі Усходняй Прусіі, частка якой разам з горадам Кёнігсбергам па ўмовах Патсдамскай канферэнцыі адышла да СССР, а сам горад займеў новае ганарлівае імя Калінінград, у гонар усесаюзнага старасты таварыша Калініна.



Аднымі з першых падымаць прускую цаліну выправіліся беларусы, для якіх ні нямецкі Кёнігсберг, ні цяпер савецкі Калінінград ніколі чужым не быў, пра што сведчыць беларуская старажытная назва гэтага горада — Каралявец. Выпраўляліся ў новыя землі добраахвотна, але пад «чуйным» кіраўніцтвам ВКП(б)Б, якая 20 ліпеня 1946 года прыняла адпаведную пастанову «Аб мерапрыемствах па засяленні і развіцці сельскай гаспадаркі Калінінградскай вобласці». Згодна з дакументам, насельніцтва з разбураных вайною мясцовасцяў БССР, у асноўным з усходняй часткі рэспублікі, планавалася перасяліць у былую Усходнюю Прусію. Так у жніўні-кастрычніку 1946 года з Беларусі на добраахвотных пачатках павінна было выехаць на пастаяннае жыхарства ў Калінінградскую вобласць дзве з паловай тысячы сем'яў калгаснікаў. Размеркаванне па абласцях выглядала наступным чынам: з Віцебскай вобласці — 425 сем'яў, Гомельскай — 400, Бабруйскай — 400, Магілёўскай — 425, Мінскай — 450, Палескай — 350 і з Полацкай вобласці — 50 сем'яў. У далейшым беларускую прысутнасць планавалася павялічыць яшчэ больш.

Папярэднічала перасяленню вялікая «массово-разъяснительная работа». Людзям у індывідуальным і калектыўным парадку тлумачылі пра перавагі жыцця на новым месцы. Добраахвотнікам даваліся разнастайныя льготы: калгаснікі вызваляліся ад падаткаў, у дарогу дазвалялася браць скаціну, птушак і пчол, тым, хто не меў уласнай гаспадаркі, дзяржава абавязвалася выдаць усё неабходнае. У дарогу давалі сухі паёк. Па савецкіх мерках выязджалі з камфортам.

Адным перасяленнем, праўда, не абмяжавалася. У хуткім часе пасля яго пачатку Панамарэнка звярнуўся да Сталіна з прапановай перадаць Калінінград у склад Беларусі, які ён разглядаў, як марскія вароты БССР. Каб не быць галаслоўным, Панамарэнка падмацаваў сваю просьбу аб'ёмным дакументам, дзе разглядаліся перспектывы далучэння Калінінградскай вобласці да БССР і над якім працавалі многія адмыслоўцы, дасканальна вывучаючы мажлівыя станоўчыя і адмоўныя наступствы. У ЦК пачалося актыўнае абмеркаванне праекта. Абставіны таго абмеркавання цікава падае Уладзімір Даброў у сваёй кнізе «Таемны пераемнік Сталіна», прысвечанай асобе Панамарэнкі. Зразумела, што гэтую кнігу нельга выкарыстоўваць у якасці гістарычнай крыніцы, але пагартаць цікава.

Аўтар сцвярджае, што большасць савецкіх дзеячаў, у тым ліку Малянкоў і Хрушчоў, выказваліся пра нерэалістычнасць прапанаванага Панамарэнкам плану і яго заўчаснасць. Панамарэнка ж настойваў на сваім, маючы ў абоймe даволі рэалістычныя і прагматычныя аргументы: Беларусі патрэбны выхад да Балтыйскага мора, бо гэта паскорыць і палепшыць яе эканамічнае развіццё; Беларусь моцна пацярпела ў вайне, таму мае законнае права крыху разжыцца свежапрынятымі землямі; далучэнне Калінінграда да БССР дазволіць кантраляваць савецкую Літву ў выпадку яе нелаяльнасці да цэнтра і, канечне ж, славянскае насельніцтва, якое без Беларусі атрымліваецца ў атачэнні прыбалтыйскіх рэспублік і Польшчы. Сталіну нібыта спадабалася такая аргументацыя, але канчатковае вырашэнне пытання па перадачы Калінінграда ён вырашыў адкласці да лепшых часоў, якія так і не надышлі. У 1948 годзе Панамарэнка пайшоў на павышэнне і пачаў працаваць у Маскве сакратаром ЦК ВКП(б). Зразумела, што цяпер яго мала цікавілі беларускія інтарэсы, таму ён больш не ўздымаў рэзанаснага пытання.

Беларусы ж тым часам працягвалі паступова павышаць сваю прысутнасць: паводле сучасных перапісаў, прадстаўнікі беларускай нацыянальнасці складаюць другую пасля расійцаў групу насельніцтва Калінінградскай вобласці. Прадстаўнікі тамтэйшага беларускага зямляцтва скінуліся і ўсталявалі ў Калінінградзе помнік Францыску Скарыну, можа быць, зусім і не выпадкова? Хто яго ведае...

Калінінград так і застаўся ў складзе РСФСР, а гісторыя пра яго магчымую перадачу Беларусі папоўніла шэраг беларускіх міфаў і легендаў пра нясправджаныя мары і надзеі, якія час ад часу згадвае нават кіраўнік дзяржавы.

**Канстанцін Касяк, budzma.by**

## «Гоняць вас усе беларусы, і тое ж робяць нашыя браты ўкраінцы»

Краязнаўства паступова сыходзіць у лічбавыя бібліятэкі. Шкада, што ў мяне самога не стае часу займацца гэтай справай. Аднак гэтым заняўся мой малады калега і краязнаўца Кастусь Шыталь — і знайшоў сенсацыйныя матэрыялы. Аказваецца, не такія ўжо нехлямяжыя былі беларусы за «польскім часам».

На абшарах Пастаўскага і Дзісенскага (сталіца — Глыбокае) паветаў кіпела грамадска-палітычнае жыццё. Праваслаўныя, напрыклад, прынцыпова не хадзілі ў царкву, калі там быў «поп маскаль». Патрабавалі святара беларуса! Дамагаліся! Ізноў ажывала царкоўнае жыццё, вернікі масава вярталіся ў храмы. У 1920-я быў шырокі рух за беларускія школы. Яны існавалі не толькі ў Глыбокім, але бадай ва ўсіх ваколічных вёсках: Жураўнёве, Шубніках, Ледніках... Яблонцы. Апошняй ужо і на мапе няма.

Зацікавіла адна з публікацыяў у тыднёвіку «Беларуская Крыніца — Biełaruskaja Krynica», №11 за 9 лютага 1928 года — «Маскалёў ацанілі, як трэба». Гісторыя, як кажуць, развіваецца па спіралі. У далёкай па часе публікацыі нечакана знайшліся паралелі з сённяшнімі парламенцкімі выбарамі ва Украіне. Дый беларусы, у прыватнасці, жыхары Дзісенскага павета, разбіраліся — хто нам брат, а хто вораг. Выгналі прарускіх агітатараў з Глыбокага і Лужак падчас выбарчай кампаніі 1928 года!

Дарэчы, рэдактарам газеты за гэты перыяд пазначаны Павал Каруза, дзеяч Беларускай хрысціянскай дэмакратыі, кампазітар. Сам Павал Каруза ў тым самым 1928 годзе быў абраны паслом на Сойм 2-ой Рэчы Паспалітай ад беларусаў Свянцяншчыны (цяпер Швянчоніс у Летуве). Сям'я Карузаў, збеларушчаных італьянцаў, жыла тады ў ваколіцах Глыбокага, бацька Язэп быў арганістам у дзеркаўшчынскім касцёле. У пазнейшыя часы рэдактарам «Беларускай Крыніцы» пазначаны Янка Пазняк, дзед Зянона Пазняка.

**Уладзімір Скрабатун, краязнавец, рэдактар газеты «Вольнае Глыбокае»**

**Фотафакт**



### Крамянёвы нож часоў неаліту знойдзены ў Белавежскай пушчы

Знаходка была выяўлена пры пасадцы яблыневага саду ў Дзмітравіцкім лясніцтве ДПУ «Нацыянальны парк «Белавежская пушча».

Высветлена, што гэты артэфакт з'яўляецца характэрным для першабытных стаянак эпохі каменнага і бронзавага вякоў. Акрамя крамянёвай пласціны са слядамі апрацоўкі, знайшлі аскепкі дагістарычнай керамікі. Было тут пастаяннае паселішча або часовая стаянка чалавека — трэба будзе вызначыць навукоўцам з Інстытута гісторыі, але ўжо цяпер можна з упэўненасцю сказаць, што людзі жылі тут з даўніх часоў. Пасля вывучэння знаходкі будуць перададзеныя ў музей Белавежскай пушчы.

**Дзе варта быць**

## Прэзентацыя кнігі «Бітва пад Оршай 1514 года» — 13 лістапада



# Сябра мой чарнабровы

Апавяданне. Піша **Таццяна Барысік**.

Ці памятаеце вы, мае даражэнькія, Мітхуна Чакраборці? Ну, індыйскі акцёр, чарнявы такі, на экране заўжды змагаецца за гонар сваёй сям'і з рознымі злыднямі. Гадзінкі за дзве, покуль тое кіно ідзе, ён ратуе бацькоў ад немінучай гібелі, знаходзіць роднага брата па радзімцы на левай руцэ, удала жэніцца ды яшчэ паспявае спяваць і танчыць амаль без перапынку. У канцы 80 — пачатку 90-х пятнаццацігадовыя сцыкухі па ім аж млелі, дзесяць разоў на адзін і той жа кінасеанс хадзячы. А на кірмашы прадаваліся ягоныя чорна-белыя фоткі, аздобленыя расфарбаванай ад рукі ружовай квеценню.

Не памятаеце? І я не памятаю. Каб той Мітхун ішоў дзе па вуліцы, дык пэўна і не пазнала б. Хаця ў 1991 не толькі ягоны фотаздымак бачыла, а нават на ягоным дні нараджэння гуляла і сябрам сваім лічыла!

Не верыце? Маўляў, хлусіш і не чырванееш. Дзе ты, а дзе ён? Ды й гадкоў колькі табе тады было? Маеце поўнае права. Цяперашнім светам брахуноў развялося крый божа! Вось, напрыклад, у нас у трэцім пад'ездзе жыве дзядзька, каторы, як да абеда падап'е, кажа, што ў Румыніі ваяваў, а як пасля абеду яшчэ дабавіць — сцвярджае, нібыта выконваў інтэрнацыянальны абавязак у Афганістане. Тыя акалічнасці, што падчас румынскіх падзеяў яму споўнілася чатыры гадкі, а ў Афганістан, калі верыць ягоным словам, дабіраўся пешкі ад самой вайсковай часткі Кісялевічы пад Бабруйскам, зусім не шкодзяць. Бо Бабруйск паўднёвей за Магілёў, а значыць, да Афгана бліжэй. Ведама, дзядзька той нідзе далей бацькавай вёскі не быў, а збрахаць то хочацца!

Але я не такая, не маню без дай прычыны. Таму адкажу падрабязна. Святкаванне дня народзінаў адбывалася ў прыгарадзе Краснадара, кіламетраў за сто — сто пяцьдзясят ад Чорнага мора, што, канечне, куды паўднёвей за Магілёў і Бабруйск, а значыць, бліжэй да Балівуда. На той момант мне было няпоўных чатырнаццаць гадоў. Звычайнае дзяўчо: дробненькае, паслухмянае, адзіны скарб — занадта доўгая і вялікая па памеры майка з выявамі ананасаў, кавуна ў разрэзе ды замежнымі літарамі, запаветныя мары — чорная скуранка і двухколерная перламутравая памада: напалову белая, напалову ружовая. У Краснадар мяне, як і іншых магілёўскіх школьнікаў, адправілі ў летнік адпачынку і працы на цягніку з надпісам «Дзеці Чарнобыля», каб аздаравіліся як след, садавіну збіраючы.

Вой, Кубань! Дзівосны край, дзе ноч і навальніцы надыходзяць раптоўна,а заклік «Усе на барацьбу з амброзіяй» красуе на кожным плоце. Там кроп паўстае сцяною, цыбуля на траецкі аер падобная, а радыс хоць і бывае розным, але ядуць толькі вялікі!

З садавіной неяк не задалося. На недаспелыя персікі паслалі толькі аднойчы. У астатні час нас чакала прапалка — баразна даўжынёю ў паўкіламетра — гэта калі памідоры і шэсцьсот метраў — гэта калі агуркі. Матыка, дзядоўнік, узбуялы пад паўднёвым сонейкам. Працавалі гадзін да дванаццаці, пасля адпачывалі, гадзін у восем вечара рэпрадуктар роў на ўсю моц:

Пусть кинжал в груди будет у меня,
Всё равно вернусь в Россию,
Там судьба моя…

Або:

Твоя вишнёвая девятка
меня совсем с ума свела…

Паўднёвая цемра апускалася на зямлю, пачыналася галоўная падзея дня — дыскатэка. На танцах мы скакалі так, што аж дыханне займала, а сэрца, здавалася, выскачыць вонкі, абутак замінаў — мы скідалі яго ў цэнтр кола пасярод танцпляцоўкі. Вечарам кожны імкнуўся прыбрацца ў найлепшае, я амаль заўсёды адзявала любімую майку. Таму шанавала гэтую апратку, ніколі не цягала на працу, памыўшы, сушыла яе каля ложка ці на сабе, кладучы пад прасціну.

Часам, замест дыскатэкі, паказвалі кіно. Пераважна індыйскае. Мо нават з тым самым Мітхунам Чакраборці ў галоўнай ролі. Не памятаю. Рэдка хадзіла. З-за спінаў старшакласніц і іхніх кавалераў было ні халеры не відаць, ды і змест не надта захапляў. І тут я была не самотнай. Алі, мясцовы ўхажор тоўстай дзесяцікласніцы Вікі, наогул засынаў пасярод фільма, а калі тая будзіла яго, абураўся ўголас, пабачыўшы на экране чарговую індыйскую танцорку:

– Што ты мне чорный паказываіш? Я бэлый люблю!

Пасля адбою, як пойдуць у свой корпус выхавацелі, старэйшыя дзеўкі або адсыпаліся, або працягвалі хадзіць на спатканні. Сядзелі на лавачцы побач з корпусам разам з хлопцамі. Мы ж для спатканняў былі яшчэ малыя, для лялек — ужо вялікія, таму проста дурэлі, рагаталі, гоцалі на ложках, біліся падушкамі, размаўлялі. І аднаго разу так загуляліся, што не агледзелі, як надышла другая гадзіна ночы, старэйшыя пачалі грукаць у сцяну і патрабаваць цішыні. Супакойвацца ўсё роўна не хацелася. Але ж а шостай на працу ўставаць!

«Вось бы дождж пайшоў», — голас з кута выказаў усеагульную мару. Пасля дажджу на працу нас не ганялі. Размоклы чарназём ліп да падэшваў, хадзіць было немагчыма, самы хадавы абутак — в'етнамкі — наогул не вытрымліваў і рваўся пасля першага-другога крока. Паход басаном нагадваў катанне на каньках не надта здольнага пачаткоўца і заканчваўся свінячым знешнім выглядам.

– А давайце памолімся, каб дождж пайшоў!

Не памятаю, хто першы выказаў такую прапанову. Пачуць яе ў душнай цемры паўднёвай ночы было дзіўнавата, тым больш ад піянерак, якіх нейкія тры гады таму ў велікодную нядзелю прымушалі хадзіць у школу і ніхто не вучыў маліцца.

Але спадзяванне на цуд было вялікім, нежаданне палоць гуркі яшчэ большым, і мы па чарзе пачалі прасіць у Бога дажджу, хто як умеў.

– Я памятаю малітву з той жоўтай кніжачкі, што вернікі на вуліцы далі, — мая сяброўка Вольга, старанна, імкнучыся нічога не пераблытаць, ад пачатку да канца прачытала «Ойча наш», тыя, хто узгадаў словы малітвы, спрабавалі дапамагчы ёй, кішэннае Евангелле баптысты падаравалі не адной Вользе.

– А я па-індыйску маліцца ўмею! — пахвалілася Лена — самая вялікая аматарка індыйскага кіно ў нашым пакоі. Яна часта спрачалася з Кацяй, хто з іх болей разоў на які фільм хадзіў, і амаль заўжды перамагала, ведала гэтыя стужкі ледзьве не на памяць. Таму, калі Лена пачала нараспеў прамаўляць дзівосныя спалучэнні іншаземных словаў, ніхто не здзівіўся. Ці былі тыя радкі насамрэч індыйскаю малітваю? Не ўпэўнена. Але голас гучаў так пранікнёна, адбіткі месяцовага святла блішчэлі ў вачах, і ўсё, што выходзіла з вуснаў дзяўчынкі, рабілася малітваю адразу. Нават Кацька, каторая спачатку пакрыўджана сапла ў дзве дзірачкі, прыўзнялася ў ложку і пазірала на сваю суперніцу зачаравана, нібы кобра на факіра.

Праз якую гадзіну ўжо ва ўсю сілу шугаў вецер, упартыя кроплі малацілі па даху барака. З неба на зямлю нечакана абрынулася сапраўдная паўднёвая залева!

Заўтрашні дзень прынёс нам сонечную ранічку, спакойны сон да сняданку і пасля. На працу павезлі ўжо адвячоркам, толькі на пару гадзін. Гэтым разам на полі замест абрыдлых гуркоў і матыкі чакаў кропны гушчар і нажы.

Ці то сапраўды Бог пачуў тую малітву, ці то для Лены, як кажуць, надышоў яе дзень, калі літаральна ва ўсім шчасціць. Па абедзе паштарка прынесла ёй грашовы перавод ад бацькоў! У выхадную нядзелю Лена, як і ўсе тыя, хто меў грошы, канечне ж, паехала ў горад. Бо ў Краснадары трамваі і марозіва ў шэсць разоў таннейшае за магілёўскае! А яшчэ ажно тры ўнівермагі! Па ўнівермагу мы сноўдаліся гадзінамі, нібы па музейнай зале, дзівячыся на дэфіцытныя для нашых мясцін рэчы, поўныя нязвыклага харства: жоўтыя маечкі з ружовымі гузікамі, стракатыя сумачкі, бліскучыя касметычкі, духі «Чырвоны мак», мыла ў форме мядзведзікаў! Грошы разыходзіліся хутка. Праз які тыдзень заставалася толькі марыць пра перавод ці першы ў жыцці заробак, а па выхадных — тырчэць у летніку, загараць, дрыхнуць, гуляць у карты цэлымі камандамі. Звычайна перамажаныя ў белых прасцінах абыходзілі свой барак з нуднай і нескончанай, як баразна няпалатых памідораў, песняю:

Радзіўся адзін вярблюд, радзіўся другі вярблюд,
Радзіўся іх цэлы караван вярблюдоў…

Далей гэткім жа чынам апявалася вучоба, жаніцьба, смерць і іншыя лёсавызначальныя падзеі жыцця караблёў пустэчы.

Любілі абліваць вадою адно аднаго. Вадзяны патоп абрынаўся на галаву ахвяры знянацку: на вуліцы пад дрэвам, у пакоі ля ложка. Крыўдаваць не было калі. Хапай вадзяны пісталет, біклажку, пажарнае вядро — і дзейнічай у адказ!

Той нядзелькаю кішэні ў большасці ўжо былі пустыя, пасля сняданку мы палеглі спаць, а прачнуўшыся, збіраліся бавіць выходны па звыклым сцэнары. Не здагадваючыся — наперадзе свята, гэткае ж нечаканае, як і той начны дождж.

Неўзабаве вярнулася з горада Ленка з вялікім фотаздымкам кучаравага чарнабровага хлопца, што ўсміхаўся на ўсе трыццаць два зубы. Чарговая выява індыйскага кінаакцёра. Мусіць, на кірмаш ездзіла.

– Гэта Мітхун Чакраборці, сёння ў яго дзень нараджэння. Будзем святкаваць! — абвесціла Ленка і, запрасіўшы на свята чалавек восем, ледзве не ўвесь пакой, разам з Кацькаю пабегла ў мясцовую краму па пачастункі.

Мы ж па яе загадзе пачалі рассоўваць ложкі і сцяліць на падлогу коўдры, рыхтавацца да дня народзінаў па-індыйску. Я нават дзеля такой урачыстасці хацела апрануць сваю любімую майку, але, на жаль, яна была брудная. Тады я памыла апранаху і развесіла яе на вяроўцы між слупоў, акурат насупраць вокнаў, каб наглядаць час ад часу. Да дыскатэкі якраз пасохне, калі, вядома, лагерная начальніца не заўважыць і з енкам: «Не палажана, не палажана!» не абарве вяроўку. Да дня народзінаў давялося адшукаць у чамадане звычайную сукенку, а на моду пакуль забыцца.

У хуткім часе мы сядзелі па-турэцку на коўдрах вакол шыкоўнай пачосткі. Чаго тут толькі не было! Ленка купіла ўсе магчымыя прысмакі, якія толькі прадаваліся ў тамтэйшай краме без купонаў: кукурузныя палачкі, пліткі сланечнікавых казінакаў спрасаваных настолькі, што прадавачцы даводзілася ламаць іх праз калена, і, канечне, ліманад «Бураціна» ў паўлітровых шкляных бутэльках. Мусіць, ад нядаўняга грашовага пераводу наўрад ці што засталося... Сумачка — чырвоная з бліскучай чайкай наперадзе, перламутравыя касметычныя алоўкі, адэкалон «Рускі лес» у падарунак тату, незлічоная колькасць марозіва — усё гэта было ахвяравана дзеля дня народзінаў чалавека, які не адзначыць, не дашле вітання, ніколі не даведаецца пра тваё існаванне наогул. Лена пра гэта, канечне, ведала, не магла не ведаць — такімі дурніцамі нават у няпоўных чатырнаццаць не бываюць, але ўсё роўна была шчаслівая самой магчымасцю такой ахвяры. Яе вочы ззялі, як перад начной залеваю, і я, здаецца, упершыню ў жыцці пабачыла чалавечую радасць, што не мела дачынення да асабістага поспеху, бацькоўскага здароўя, абноваў, адзнак, запрашэнняў на спатканне! Лена і Каця спявалі індыйскія песні і спрабавалі танчыць. Мы пілі ліманад за здароўе імянінніка. Бурбалкі былі такія казытлівыя, а казінакі такія салодкія! Я амаль закахалася ў Мітхуна і нават дала сама сабе абяцанне абавязкова схадзіць на фільм з ягоным удзелам. Цалкам паддаўшыся святочнаму настрою, страціла пачуцце рэальнасці.

Выйшла на двор толькі вечарам, калі ўсё было з'едзена, выпіта і прыбрана. Гляджу на вяроўку — майкі няма! Не здольная ўсвядоміць сваё няшчасце адразу, прыглядаюся да строяў тых, хто ідзе на танцпляцоўку. Дарэмна. Майкі няма і ўжо ніколі не будзе, бо яе скралі! І зрабіў гэта той, хто ведаў пра свята, пра тое, што хутчэй за ўсё з пакоя ніхто не выйдзе, бачыў бляск Леніных вачэй, а магчыма, нават сядзеў сярод нас! Шукаць бессэнсоўна, хто ж адважыцца апрануць крадзенае? Жаліцца выхавацелям — марная справа, яны нават пальцам не паварушаць, такое тут ледзь не штодня робіцца! Роспач пакрысе саступае месца безнадзейнай тузе, глыбіню каторай сучасным падлеткам не зразумець ніколі. Салатавыя шнуркі — вялікая навіна, а тут майка з ананасамі! З рэпрадуктара на ўсё наваколле гучыць песня Цоя пра групу крыві. Вяртаюся ў пакой. З Ленінай тумбачкі на мяне пазірае Мітхун Чакраборці. Не кпіць, а хутчэй улагоджвае і па- сяброўску суцяшае. Так-так, менавіта пасяброўску, бо ў няпоўныя чатырнаццаць лічыш сябрам кожнага, на чыіх народзінах гуляеш, інакш немагчыма.

Нават тады я не вінавацціла ў сваім няшчасці ні Мітхуна, ні Лену. Хоць майку, вядома, не адшукала. Імя злодзея не дазналася, мусіць, ён ці яна ў дарослым жыцці ўладкаваліся няблага. Ды і на кінастужку з чарнабровым сябрам у галоўнай ролі трапіць не атрымалася. Зусім не таму, што расчаравалася ў майстэрстве Балівуда, проста неяк знаходзіліся ў жыцці іншыя справы. Надышоў час «Проста Марыі», «Салодкага ручая», «Санта- Барбары». Пасля пасталела, зусім не да Мітхунавых эмацыйных скокаў зрабілася, індыйскіх жарсцяў хапала ў штодзённым існаванні аж па самыя вушы.

А вось ягоны дзень народзінаў даводзілася святкаваць неаднойчы, у розную пару года не толькі мне, а і вам таксама, без асабістай на тое згоды. Прыгадайце хаця б векапомныя падзеі ў гісторыі Бацькаўшчыны апошніх гадоў дваццаці: пачынаецца ўсё з надзеі ў сэрцы, веры ў вачах і халерычнай узрушанасці, а заканчваецца, як тады... Ці вось Новы год, напрыклад. Уночы — усмешкі, шампанскае, мясны рулет, блакітны агеньчык па тэлевізары і «Праздравляем з празнічкам!» кожныя паўгадзіны па тэлефоне. А на раніцу праспішся — ці цэны ўзраслі, ці курс даляра ўтрая павялічыўся! Карацей, яны заўсёды побач — людзі, гатовыя скрасці тваю майку. З малых гадоў сцямілі: найлепшая ўмова зладзейства — эйфарыя, апантаны бляск у вачах ахвяры, і цяперака звыкліся рабаваць ужо не па-дзіцячы. Ды і мы ў шапку не спім! Выйдзеш на вуліцу — маек якіх заўгодна: хочаш шкілет са стразікаў, хочаш коцік у акулярах, хочаш надпіс — «Мужык сказаў — мужык зрабіў!» Натхнёныя вочы з прамяністым ззяннем, дзе вы?!

Эх, Мітхуне, Мітхуне — зорка Балівуда! Сябра мой чарнабровы...



**Таццяна Барысік**
Пісьменніца. Жыве ў Магілёве.



КІРЫЛА ХІЛЬКО

**Ад 7 лістапада пяць разоў на дзень да аэрапорта ходзіць цягнік, што адпраўляецца з чыгуначнай станцыі «Мінск-Пасажырскі». Падарожжа ў адзін бок каштуе 25 тысяч рублёў. Гэта танней, чым на аўтобусе. Паездка цягніком да аэрапорта цягнецца 70 хвілін. Аднак чыгуначная станцыя знаходзіцца за тэрміналам, таму, каб дабрацца да ўвахода ў аэрапорт, трэба перасесці ў аўтобус.**




**Для вокладкі трэцяга альбома папулярны спявак Макс Корж зняўся ў народных строях усёй сям'ёй.**



**Пуцін з голым торсам на знішчаным малайзійскім «Боінгу» і голы Пуцін у трусах Бората — два пудзілы прэзідэнта Расіі, якія пранеслі жыхары англійскага горада Льюіс (Lewes), што ў Сасэксе. Пудзілы пасля былі спаленыя. Манекены — абавязковая частка традыцыйнага карнавала.**



**Прафсаюзы і левыя палітыкі вывелі на вуліцы Брусэля (сталіца Бельгіі, цэнтр Еўрасаюза) сто тысяч пратэстоўцаў. Яны патрабавалі павялічыць заробкі і пенсіі. Радыкальныя элементы палілі машыны і кідаліся ў бойку з паліцыяй.**

## Анекдоты і жарты

* * *

Калі доўга глядзець на агонь, то можна ўбачыць, як цябе звальняюць з МНС.

* * *

У дзяцінстве я захапляўся фатаграфіяй. Але потым мама забрала ў мяне гэтую фатаграфію...

* * *

Песіміст — гэта аптыміст, які пабываў у Расіі.

* * *

— Радзіме, ці спадабалася табе ў Філармоніі?

— Так, але там увесь час ігралі і спявалі. А мне хацелася б, каб там паказалі, як трэба тушыць пажар.

* * *

Жонка мужу:

— Я ад цябе сыходжу.

Муж у паніцы:

— Я з табой...

* * *

– Прабачце, а які тут пароль ад Wi-Fi?

– Ды вы што ?! Гэта ж пахаванне!

– «Пахаванне» з маленькай літары ці з вялікай?

* * *

Няма грошай абнаўляць свой гардэроб — змяні працу!

Для новага калектыву ўсе твае старыя шмоткі — новыя.

* * *

«Добры дзень! Мой тата вар'яцее ад Лаймы Вайкуле. Калі ласка, зрабіце што-небудзь!» Лайма Сідараў, 9 гадоў.

* * *

— Доктар, няўжо выпіць чарачку перад ежай гэтак ужо шкодна для здароўя?

— Не, вядома. Толькі не ежце занадта часта.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Максім Гарэцкі ранены.** Наш вядомы пісьменнік М.Гарэцкі, якога фатаграфія была надрукаваная ў «НН» №37, ранены ў нагу і цяпер лечыцца ў Вільні ў шпіталі.

**«НН». №45. 1914.**

**Самі з вушамі.** У аўторак у міністра інфармацыі Уладзіміра Русакевіча сышліся ўсе 13 кіраўнікоў FM-станцый, каб абмеркаваць гарачае пытанне «75 працэнтаў». Нарада была закрытай, аднак удалося дазнацца, што там адбывалася. Міністр інфармацыі адклаў увядзенне 75-працэнтнай квоты на беларускую музыку на радыё да новага года.

**«НН». №42. 2004.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7004. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 11.11.2014.
Замова №4451.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614
9 771819 161008 14042